PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 26 (2094) Год XLI Беласток 30 чэрвеня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)



*У гэтай ваколіцы сустрэліся старшыні парламентаў Польшчы і Беларусі, аб чым пішам ніжэй.* Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

## Шарэцкі на Беласточчыне

**20 чэрвеня ў Грушках, каля Нараўкі, сустрэліся маршалак польскага Сейма Юзаф Зых і старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён ШАРЭЦКІ.**

Сабраныя пад магутным дубам каля сядзібы надляснііцтва Броўск журналісты глядзелі на верталёт маршалка і „Мерседэс" старшыні ды спекулявалі, чаму ахова не падпускае іх да месца сустрэчы. Атмасферу засакрэчанасці ўзвялічвалі яшчэ і леснікі, якія не дысціь, што дапамагалі паліцыі — з пісталетамі — пільнаваць журналістаў, то яшчэ не дазволілі пакарыстацца сваімі тэлефонамі.

Толькі праз тры гадзіны папрасілі нас на прэс-канферэнцыю. Трэба тут адзначыць, што маршалак Зых павёў сябе вельмі карэктна, перапрасіў за ўзніклую сітуацыю:

— Нашае спатканне праходзіла ў рабочым парадку, не мела афіцыйнага характару, дык я нават не ведаў, што вы там чакаеце.

Далей было заяўлена, што ў час сустрэчы абмяркоўваліся ўсе праблемы, якія датычаць дзвюх суседніх дзяржаў, а гэта між іншым: замежная палітыка, двухбаковыя стасункі, становішча нацыянальных меншасць. Асаблівая ўвага будзе звернута на паглыбленне супрацоўніцтва між парламентамі. Яшчэ ў гэтым годзе ў Польшчы пройдзе круглы стол парламентарыяў абедзвюх краін, а маршалак Зых наведае Беларусь.

— Я вельмі задаволены сустрэчай, — казаў Сямён Шарэцкі, — лічу яе патрэбнай нашым народам. У нас ёсць поўнае ўзаемаразуменне. Размовы былі вельмі канкрэтныя, гаварылі мы і пра інцыдэнт з Кшаклеўскім, і пра польскіх ксяндзоў. Дамовіліся, што калі будуць узнікаць нейкія спрэчныя пытанні, мы іх тут жа будзем супольна вырашаць.

— Наконт міжнароднай палітыкі, — сказаў Юзаф Зых, — Беларусь шукае падтрымку ў паступленні ў Раду Еўропы. Калі яна выпаўніць усе пастаўленыя Радай умовы, мы падтрымаем яе, як падтрымалі ў свой час Расею і Украіну.

Пра НАТО ў час сустрэчы гаворкі не было.

* * *

Пасля развітання з маршалкам Зыхам, беларуская дэлегацыя наведала Беларускі музей у Гайнаўцы, пазнаёмілася са станам пабудовы аб'екта і сустрэлася з прадстаўнікамі грамадскасці беларусаў Беласточчыны. Да **Сямёна Шарэцкага** і старшыні парламенцкай камісіі па міжнародных справах **Пятра Краўчанкі** далучылі тут пасол **Віктар Бурскі** і консул **Міхаіл Слямнёў**. Прысутнічалі таксама будаўнікі Музея, самаўрадавыя ўлады Гайнаўкі і Бельска, духоўныя асобы, працаўнікі асветы і культуры, кіраўніцтва Беларускага грамадска-культурнага таварыства. **Старшыня Беларускага саюза адказаўся прыняць удзел у сустрэчы.**

— Мы б хацелі, каб Беласточчына захавалася як куточак Беларусі, — гаварыў Сямён Шарэцкі, — не як дзяржавы, але духоўна. Каб збераглася тут культура, каб развівалася праваслаўе.

Некаторыя з прысутных сумняваліся, ці захаваецца беларускасць у самой Беларусі. Асабліва адмоўныя працэсы пайшлі, калі быў абраны прэзідэнтам Аляксандр Лукашэнка.

— Адмяняюцца нацыянальныя сімвалы, — гаварыў **Аляксандр Іванюк**, — зніжаецца ранг беларускай мовы, ліквідуецца дзяржаўнасць. Мы разумеем, што такое супрацоўніцтва між дзвюма краінамі, а што падпарадкаванне адна другой. Якія сілы сёння ў Беларусі гарантуюць яе незалежнасць?

Пётр Краўчанка заявіў, што з верасня сесіі Вярхоўнага Савета будуць весціся па-беларуску і што старшыня Шарэцкі выступіць са зваротам, каб у большай ступені ў працы парламента выкарыстоўвалася беларуская мова. Сёння на 199 дэпутатаў пастаянна на ёй гаворыць 3—5 чалавек.

— Мы, як Беларускае таварыства, памяркоўна ацэньваем падзеі ў Беларусі, — гаварыў **Янка Сычэўскі**. — Гэта, перад усім, справа народа, дэмакратычна абранага прэзідэнта і Вярхоўнага Савета. Нас занепакоіла б, калі б наступіла адкрытая акупацыя ўладамі краіны. Але, калі Вярхоўны Савет загадае ўсім карыстацца беларускай мовай, гэта будзе штучна.

Пётр Краўчанка расказаў пра палітычнае становішча ў Беларусі:

— Дамова прэзідэнтаў Ельцына і Лукашэнкі ад 2 красавіка не супярэчыць законам Рэспублікі Беларусь, хаця можа з'явіцца пагрозай незалежнасці Беларусі. У эканамічным плане на сённяшні дзень яна ніякага эфекту не прынесла. Дала магчымасць нашай моладзі працягваць вучобу ў Расеі і зраўняла ў правах там беларускіх рабочых з рускімі. Вялікую ролю адыгралі апошнія маніфестацыі, якія паказалі, што беларусам неабыякавы лёс сваёй краіны. Гэтага не чакалі. Нягледзячы на парушэнні правоў чалавека ў нас, мы будзем старацца, каб прынялі нас у Раду Еўропы.

У сувязі з прэсавымі паведамленнямі аб хуткім адкліканні консула Слямнёва, польскія беларусы аднназначна станоўча ацанілі яго працу. Падкрэслілі асаблівае тонкае разуменне беластоцкіх рэалій.

У далейшым пайшлі традыцыйныя ўжо пастулаты з патрабаваннямі: мяжа, культурны абмен, маральная падтрымка для меншасці. Сустрэчу можна падсумаваць словамі **Васіля Сакоўскага**:

— У нас частыя кантакты, але кожны раз гаворым пра тое самае. Няма разумнага, планавага працягу працэсу, як гэта бачым хаця б у кантактах Польшчы з палоніяй.

**Мікола ВАЎРАНЮК**

Яўген Міранович

## Чэрвеньская катастрофа

**22 чэрвеня мінула 55 гадоў з дня, калі нямецкія войскі напалі на Савецкі Саюз, адкрываючы найбольш крывавы фронт II сусветнай вайны. Вымучаная сталінскім тэрорам краіна патраціла чарговых 27 мільёнаў сваіх грамадзян, а звыш 50 мільёнаў было пакалечаных. Загінуў кожны чацвёрты беларус**

Каментуючы гэту падзею, беларускія сродкі масавай інфармацыі паўтараюць старыя савецкія лозунгі пра „вераломную агрэсію гітлераўскай арміі на міралюбівую краіну рабочых і сялян". Як прычыны паражэння савецкай арміі прыводзіцца найчасцей раптоўнасць варожага нападу, перавагу нямецкай арміі ў колькасці салдат і баявой тэхніцы, дасведчанне нямецкіх афіцэраў і жаўнераў, парушэнне ворагам усіх прынцыпаў вядзення вайны. Карацей кажучы, усяму вінаваты быў вораг, які невядома адкуль з'явіўся на тэрыторыі вялікай краіны.

Рускіх і замежных гісторыкаў займае тым часам пытанне, чаму Сталін, ведаючы пару месяцаў раней, што Гітлер рыхтуецца да вайны з Савецкім Саюзам, не зрабіў нічога, каб прадухіліць набліжаючуюся катастрофу. Адны гісторыкі тлумачаць такія паводзіны Сталіна тым, што страшэнна баяўся ён Гітлера, аб чым сведчыць факт, што ў першых днях вайны запрапанаваў нямецкаму фюрэру новае пагадненне і гатоўнасць аддаць без змагання Беларусь, Украіну і Прыбалтыку. Савецкі дыктатар ведаў вартасць свае арміі. Падчас вайны з Фінляндыяй у 1940 годзе не магла яна перамагчы пару слаба ўзброеных дывізій. Напярэдадні II сусветнай вайны Чырвоная Армія была пазбаўлена найбольш талковых афіцэраў. У 1937-1938 гадах 40 тысяч маршалаў, генералаў і палкоўнікаў было звычайна расстраляных як здраднікі і шпіёны. Шаленства Сталіна і яго апрычнікаў з Народнага камітэта ўнутраных спраў амаль зусім абяззброіла армію.

Ад 1939 года савецкая прапаганда ні словам не ўспамінала, што немцы могуць быць патэнцыяльным ворагам Саюза. Нават калі пачалася вайна, у заходнім напрамку рушылі транспарты з сыравінай для нямецкай прамысловасці. Дзяржаўны апарат тым часам сачыў за тым, каб лік 8 мільёнаў сасланых у сібірскія канцлагеры не памяншаўся, хаця зняволеных паміралі там масава ад голаду і холаду.

22 чэрвеня 1941 г. не сталі бараніць сваю краіну тысячы самалётаў і танкаў, сканцэнтраваных у заходніх раёнах савецкай дзяржавы. Першага дня вайны Чырвоная Армія страціла 1200 баявых

*(працяг на стар. 4)*

# Мы прачыталі

*Język nam schamiał. Epitety i argumenty poniżej pasa zakorzeniły się w życiu publicznym na dobre. Pojawia się coraz więcej chamskich wypowiedzi cytowanych w telewizji czy radiu. Nie dziwi kmina czy grypsera, czyli język więzienny, którego nagminnie używają redaktorzy wielu gazet.*

*Wprost, nr 23*

Якое ж хамства!

* * *

*Kamery pokazały w zbliżeniu twarze studentów Uniwersytetu Jagiellońskiego, obrzucających zgniłymi jajami ministra Wiatra. Te twarze do złudzenia przypominają osobników na płocie podczas meczu Legia—Widzew. Chamstwo, chamstwo i zdziczenie.*

*Polityka, nr 23*

* * *

*Jeśli Rosją musi rządzić sukinsyn, niech to będzie nasz sukinsyn — mówi historyk rosyjski. — Sukinsyn rosyjskich demokratów.*

*Gazeta Wyborcza, nr 132*

* * *

*Багатых у Беларусі стане меней,* — інфармуе

*Звязда, н-р 137*

Сенсацыяй была б інфармацыя, што багатых будзе болей.

* * *

*Warszawiacy tęsknią za tym, by mieszkać w normalnym mieście, a nie zabieganej, pełnej chamstwa przestępców i „karierowiczów z Wołomina” stolicy. Nie ma już starej Warszawy. Na jej gruzach powstało miasto bez charakteru, specyfiki i klimatu. Warszawa to armia urzędników, ludzi marzących o karierze za wszelką cenę. W administracji publicznej pracuje niemal 40 tysięcy osób, w tym 20 tys. w państwowych urzędach centralnych. Gdy weźmie się pod uwagę ich rodziny, okaże się, że podstawowym źródłem utrzymania dla ok. 100 tys. warszawiaków jest sprawowanie władzy i dzielenie dochodu wypracowanego w całej Polsce.*

*Wprost, nr 23*

* * *

*W 1990 r., kiedy wprowadzano nauczanie religii do szkół, bardzo dużo mówiono o wychowawczych pożytkach z katechezy, która miała być najlepszym remedium na nieudolność i zaniedbania szkoły w tym zakresie. Dziś już wiadomo, że katecheci nie podnieśli ani morale uczniów, ani kultury życia w szkole. Stare i nowe patologie szerzą się wśród dzieci i młodzieży z siłą epidemii. Od kilku lat episkopat natarczywie żąda wynagrodzenia księży z budżetu edukacji, chociaż poniżające ubóstwo nauczycieli coraz natarczywiej rzuca się w oczy.*

*Polityka, nr 23*

* * *

*— Як вы ставіцеся да Лукашэнкі?*

*— Я не падзяляю тых ацэнак, быццам бы ён нейкі там засланы, нейкая місія ў яго гістарычная, д'ябальская і г.д. Гэты чалавек на мой погляд дамагаецца толькі ўлады. Пры іншых абставінах ён быў бы нацыяналістам. На сваіх першых выбарах Лукашэнка йшоў у парлямент пры падтрымцы БНФ. Ён першы ўнёс бел-чырвона-белы сьцяг у Вярхоўны Савет. Цяпер зьмянілася палітычная кан'юнктура. Найбольш актыўныя выбаршчыкі маюць пэўныя ілюзіі, а ён эксплуатуе гэтыя ілюзіі, каб выйгрываць рэферэндумы, выбары. Ён яшчэ больш распальвае ілюзіі, робіцца заложнікам гэтых ілюзій, гэтай ідэалогіі. Гэты чалавек, па-першае, вельмі закамплексаваны, вельмі баіцца, вельмі злапомны і, па-другое, у яго няма ніякіх духоўных, маральных арыентыраў,* — сказаў старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады Мікола Статкевіч.

*Наша ніва, н-р 9*

* * *

*W ciągu dwóch lat wydatki na działalność Urzędu Miejskiego zwiększyły się o 200 proc. Utworzono nowe etaty, jak na przykład asystenta prezydenta. Stanowisko to objął szef prawicowo-narodowej Młodzieży Wszechpolskiej Dariusz Wasilewski. Zatrudnienie w „Monitorze Białostockim” znalazł szef Stowarzyszenia Katolickiej Młodzieży Akademickiej Piotr Woroniecki.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 136*

Беластоцкія палякі ўжо даўно зразумелі, навошта адбываюцца самаўрадавыя ці парламенцкія выбары. Ці зразумеюць гэта калі-небудзь беларусы?

* * *

*Niektórzy prezesi państwowych banków otrzymują 190—200 mln złotych miesięcznie.*

*Polityka, nr 22*

Такім чынам сярэдняя плата ў краіне наблізілася да 8 мільёнаў.

* * *

*— W Ruchu Odbudowy Polski mamy takie dziewczyny, że nawet SLD może nam pozazdrościć.*

*— Pewnie wypożyczyliście je na jedno popołudnie.*

*— Nie, to są nasze dziewczyny,* — сказаў прэс-інфарматар РОП Яцэк Курскі.

*Kurier Poranny, nr 138*

Сёння пра поспех у палітыцы вырашае прыгажосць жанчын, якія круцяцца вакол кандыдатаў на высокія дзяржаўныя пасты ці тых, што ўжо пры ўладзе. Анастазія П. прывяла Кваснеўскага ў прэзідэнты, а Мілера ў міністры. Несялоўскі, якому, паводле Анастазіі, брыдка пахла з рота, недзе зусім прапаў. А дзяўчыны былі заўсёды там, дзе грошы.

# З мінулага тыдня

**Пачаліся канікулы** для 130 тысяч вучняў пачатковых і сярэдніх школ Беластоцкага ваяводства. Куратория асветы мяркуе, што арганізаванымі формамі летняга адпачынку ў ліпені і жніўні пакарыстаецца ўсяго 50—70 тысяч дзяцей і моладзі. Большасць школьнікаў правядзе канікулы дома або на адпачынку з бацькамі. Беластоцкая куратория вырашыла прызначыць на арганізацыю летняга адпачынку 180 тыс. зл. Датацыяй пакарыстаюцца больш за 40 арганізацый, у тым ліку ЗГП, ТПД і СКС.

**Брацтва праваслаўнай моладзі** арганізавала пешае паломніцтва з Беластока да манастыра св. Ануфрыя ў Яблачыне. На працягу сямі дзён цераз Заблудаў, Бельск-Падляшскі, Мілейчычы, Мельнік, Паўлава і Кабыляны паломнікі прайшлі 200 км. 25 чэрвеня пілігрымы ўдзельнічалі ў святкаваннях у гонар нябеснага заступніка манастыра.

**Алеф** — так называецца камп'ютэрная бібліятэчная сістэма, якая была тэмай трохдзённай навуковай канферэнцыі, арганізаванай Беластоцкай палітэхнікай. Названая сістэма стварае магчымасць аб'яднаць усе вузаўскія бібліятэкі ў паўночна-ўсходнім рэгіёне Польшчы ў адну камп'ютэрную сетку, дзякуючы чаму чытачы атрымаюць хуткую інфармацыю: не трэба тады будзе лістаць каталогі, а патрэбную інфармацыю будзе можна перапісваць на дыскі. Грошы на камп'ютэрызацыю бібліятэк паходзяць ад Фонду PHARE, які прызначыў на гэтую мэту 400 тыс. ECU.

**У Беластоку** адбылася міжнародная навуковая канферэнцыя на тэму „Замежныя мовы ў адукацыйнай сістэме”. Удзел у ёй прынялo 130 навукоўцаў з Польшчы, Балгарыі, **Беларусі**, Расеі, Украіны і Францыі.

**Беластоцкая спартсменка Крыстына Данільчык-Забаўска** ўстанавіла рэкорд Польшчы па штурханню ядра вынікам 19,87 м.

**Фірма „Унібуд” з Бельска-Падляшскага** вядзе будаўнічыя работы таксама і па-за межамі краіны, галоўным чынам на тэрыторыі былога Савецкага Саюза. Цяпер за ўсходняй граніцай працуе каля 300 рабочых, якія між іншым заняты на будовах пякарні ў Маскве і санаторыя ў Нальчыку на Каўказе. Фірма прапануе свае паслугі таксама і заходнім інвестарам. Зараз вядуцца перагаворы ў справе будаўнічых работ у Берліне.

**У Белавежы** адбылося пасяджэнне Ваяводскага абарончага камітэта. Тэмай канферэнцыі быў стан аховы **польска-беларускай мяжы** і сітуацыя на пагранічных пераходах.

**У Паўлах** каля Заблудава адбыліся ўрачыстасці з выпадку 53 гадавіны сутычкі падраздзялення Арміі Краёвай з немцамі. З гэтай нагоды адпраўлялася палявая імша па загінулых і быў адкрыты помнік у гонар жаўнераў АК.

**Вада ў Беластоку** ў апошніх двух месяцах утрымлівала ў некалькі разоў больш хлараформу, чым дапускаюць санітарныя нормы. Такое здараецца некалькі разоў у год, калі пасля працяглага дажджу ў раку Супрасль, адкуль бярэцца вада на патрэбы жыхароў Беластока, сплываюць большыя, чым заўсёды, колькасці арганічных злучэнняў. Каб пазбыцца хлараформу, ваду трэба кіпяціць у адкрытым посудзе тры мінуты.

**Беластоцкія купцы** патрабуюць выдварыць з базару „Мадро” (што ля чыгуначнага вакзала) гандляроў армянскай нацыянальнасці. Абвінавачваюцца яны ў тым, што вядуць нелегальную гандлёвую дзейнасць і такім чынам ствараюць канкурэнцыю легальным купцам.

# Весткі з Беларусі

**Тлумачэнні спікера**

Прэс-служба парламента распаўсюдзіла інтэрв'ю, якое старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі даў карэспандэнту Джяржтэлерадыёкампаніі пасля публічнай крытыкі прэзідэнта на пасяджэнні сесіі ВС. У інтэрв'ю спікер парламента заявіў, што яго крытычнае выступленне ні ў якім выпадку нельга разумець як пачатак імпічменту прэзідэнту. „Маё выступленне, — заявіў Сямён Шарэцкі, — накіравана на аб'яднанне ўсіх галінаў улады, а не на раскол, як хацелася б некаторым нядобразычліўцам”.

**Льготы і дэмакратыя**

Камісія па знешняй палітыцы і пытаннях бяспекі Еўрапейскага парламента аднагалосна запатрабавала ад Савета Еўрапейскага Саюза затрымаць уступленне ў сілу ўжо падпісанага часовага гандлёвага пагаднення паміж ЕС і Беларуссю. У рашэнні камісіі адзначаецца, што пагадненне не павінна ўступаць у сілу да таго часу, пакуль у Беларусі не будзе прыкметаў паляпшэння ў галіне захавання правоў чалавека і прынцыпаў дэмакратыі. Дэпутаты Еўрапарламента лічаць, што Менск не выконвае артыкула, які адпавядае пагадненню, што ўзгадняе гандлёвыя адносіны ў адносінах з ЕС і палітычнымі ўмовамі.

**Новыя назначэнні ў БНФ**

На апошнім Сойме БНФ выконваючым абавязкі старшыні руху і партыі выбраны Лявон Баршчэўскі, а выконваючым абавязкі старшыні партыі па арганізацыйных пытаннях — Юрый Беленькі. На гэтым жа Сойме даручана стварыць штаб па правядзенні выбарчай кампаніі Зянона Пазьняка на восеньскіх давыбарах у парламент, а таксама вырашана ў ліпені правесці канферэнцыю.

**Падмацоўванне неасавецкай сімволікі**

Завершаны конкурс на тлумачальны тэкст да герба і сцяга Рэспублікі Беларусь, які праходзіў у адпаведнасці з прэзідэнцкім указам аб некаторых мерах па забеспячэнню статусу дзяржаўнай сімволікі. Першыя прэміі журы прысудзіла работам скульптара Уладзіміра Папсуева і пісьменніка Аляксандра Савіцкага. Замест дзвюх другіх прэмій журы вырашыла прысудзіць тры. Іх удастоены гісторыкі Леанід Побаль і Валеры Касмалёў ды паэт Бранілаў Спрынчан. Па выніках конкурсу прапануецца выдаць зборнік.

**Польская выстава**

Беларускі інстытут інфармацыі і прагнозаў пры Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі і Цэнтр апрацоўкі інфармацыі з Варшавы адкрылі ў Менску ў памяшканні Прэзідыума Акадэміі навук Беларусі выставу „Навука і тэхніка Польшчы — 96”, прысвечаную навуцы і тэхніцы Польшчы. Сярод экспанатаў былі высакаякасныя харчовыя канцэнтраты, пажыўныя дыетычныя прадукты, электратэхнічныя вырабы для дзяцей, электраабсталяванне для станкоў і многа іншых тавараў. Удзельнікі выставы маглі азнаёміцца таксама з праектамі арганізацыі і эканомікі сельскагаспадарчай вытворчасці ва ўмовах рынку.

**Працоўная эміграцыя**

Міграцыйныя працэсы ў Беларусі, відаць, набываюць глабальныя маштабы. І калі раней выезд грамадзян за мяжу меў галоўным чынам палітычную падкладку, то апошнім часам ён усё больш набывае эканамічны характар. Адбываецца так званая ўцечка мазгоў і кваліфікаванай рабочай сілы. Дарэчы, пальма першынства ўсё ж такі належыць эмігрантам па нацыянальнай прымеце, якія галоўным чынам выязджаюць у Ізраіль, Злучаныя Штаты Амерыкі, Нямеччыну і Канаду. Больш інтэнсіўнай у апошні час стала знешняя працоўная эміграцыя. Паводле розных ацэнак, цяпер за межамі Беларусі працуюць да ста тысяч чалавек, але самы вялікі ўрон дзяржаве, які можа адбіцца на інтэлектуальным патэнцыяле нацыі ў будучыні, наносіць эміграцыя навукова-тэхнічнай эліты рэспублікі.

**Тэрарыст у садку**

11 чэрвеня раніцай, у 9 гадзін, тэрарыст, які меў пры сабе самаробнае выбуховае прыстасаванне, у якасці заложнікаў захапіў 15 дзяцей і двух выхавальніц дзіцячага садка № 511 у Менску. Спецпадраздзяленне МУС, якое неадкладна прыбыло на месца здарэння, прыняло адпаведныя меры і ліквідавала тэрарыста двума стрэламі ў галаву. Асоба злачынца ўстаноўлена. Гэта неўраўнаважаны псіхічна жыхар пасёлка Ратамка, што пад Менскам. Бомба на шчасце не спрацавала і ніхто з удзельнікаў не пацярпеў.

## Неўзабаве ў „Ніве”

- **Хто крадзе харчы ў беластоцкіх крамах** — адказ шукала Ада Чачуга.
- **Супраць чаго пратэстуюць беларусы ў Мінску і Вашынгтоне.**
- **Што хочуць рабіць дзеці на канікулах.**

# Свята беларускай культуры



*Спяваў хор з Гарадка.* Фота Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА



*Пісьменнікі прадавалі кніжкі.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Бэгэкатоўскі фэст, названы „Святам беларускай культуры", адбыўся 16 чэрвеня г.г. у беластоцкім гарадскім амфітэатры. Мерапрыемства прыцягнула больш за тысячу гледачоў. Сярод публікі пераважалі польскамоўныя пенсіянеры.

— Kiedy ten „As" będzie? — чулася сярод публікі.

Многія паклоннікі гэтага гурту прыйшлі якраз толькі для „Песні пра маму". На жаль, заказаныя раней па радыё гурты „Ас" і „Рэаль" зусім не паказаліся.

Арганізатары абмежаваліся да паўтарэння схем з мінуўшчыны. На сцэне выступілі дзіцячыя калектывы з Гарадка, Нарвы, Ласінкі і Нараўкі. З ліку дарослых выканаўцаў выступілі „Цаглінкі", „Журавінкі", „Незабудкі", „Чыжавяне", „Хлопцы-рыбалоўцы", „Васілёчкі", хор Гайнаўскага дома культуры, беластоцкі хор БГКТ, „Каласкі", „Лявоны" з Воранава на Беларусі, хор з Гарадка, кабеты з Козлікаў і Збуча. Публіцы найбольш спадабаліся „Лявоны", „Хлопцы-рыбалоўцы" і салістка Аля Дубец. Старшыня БГКТ Янка Сычэўскі сказаў ва ўступным слове шмат пахвал у адрас дзеячаў сваёй арганізацыі. Паінфармаваў ён таксама пра летнія, вясковыя фэстыны БГКТ.

Удзельнікі мерапрыемства маглі таксама купіць кніжкі Віктара Шведа, Янкі Целушэцкага, Васіля Петручука і касеты з беларускімі песнямі. **Г. К.**

# Будні чаромхаўскага спорту

Калі не лічыць дзейнасці футбольнай каманды СКС „Калеяж", дык можна сказаць, што ў Чаромхаўскай гміне пра спорт і не гаворыцца. Па ўсяму фронту царыць цішыня!

Прычыны гэтаму розныя. Асноўнай аднак, на маю думку, з'яўляецца пераход на рынкавую эканоміку і недахоп фінансавых сродкаў у гмінах.

Праўда, законы прадбачваюць, што мясцовыя самаўрады павінны вылучыць 1% гадавога бюджэту на спорт і адпачынак, але рэчаіснасць ёсць іншая. У Чаромхаўскай гміне радныя неахвотна ставяцца да праблемаў спорту. „Навошта і каму патрэбны спорт, — кажуць. — Тут на важнейшыя справы няма грошай..."

Хачу адзначыць, што раней інакш глядзелася на гэтыя справы. Чаромхаўскія чыгуначныя прадпрыемствы прызначалі са свайго бюджэту адпаведныя сумы, а і гміна таксама не скупілася. Такім чынам арганізаваліся розныя спартыўныя мерапрыемствы, спаборніцтвы. Пабудаваўся корт для секцыі тэніса, якая дзейнічала пры клубе культуры „Калеяж". Урэшце вырас прыгожы спартыўны аб'ект — стадыён СКС „Калеяж".

Што ў спадчыне пакінула камуна чаромхаўскім аматарам спорту? Непрыдатны нікому зараз корт для тэніса і каманду футбалістаў у поўным крызісе з яе вернымі балельшчыкамі.

Тое, што чаромхаўскі СКС „Калеяж" праходзіць крызіс, гэта праўда.

Ды давайце ад пачатку! Вось што ўспамінае трэнер каманды „Калеяж" Славамір Багроўскі.

— Мы арганізаваліся ў 1973 годзе (тады і пабудавалі стадыён). Доўга мне прыходзілася тлумачыць калегам на прадпрыемстве, што лепш заняцца спортам, чым гадзінамі праседжваць у рэстаране пры піве ці кілішку гарэлкі. Не дарэмна я траціў час. Знайшліся першыя ахвотныя, а неўзабаве стварылася каманда.

Пачаліся трэніроўкі тры разы ў тыдзень. Дабіліся поспехаў. Нават у „А" класе апынуліся. Наша каманда зававявала пашану ў балельшчыкаў і вышэйшых чыгуначных чыноў. Аднак няма ружы без церняў, кажа прымаўка. Так і з намі было.

Змянілася праўленне клуба. Паявіліся ў мяне першыя недаразуменні з новымі шэфамі, у выніку чаго я пакінуў каманду. Маё месца заняў сябра па рабоце — Мікалай Бідуля. З таго часу пачалося ўсё і валіцца. Панізілася дысцыпліна. Некаторыя спартсмены не прыходзілі на трэніроўкі. Траплялася, што не выязджалі на матчы. Здаваліся „без бою". У канцы васьмідзесятых гадоў СКС „Калеяж" спыніў сваю дзейнасць. Мёртвы сезон у чаромхаўскіх футбалістаў працягваўся чатыры гады (1989—1993).

Не стрымаў гэтага Багроўскі. Пайшоў у гміну, расказаў войту Міхасю Врублеўскаму ўсю гісторыю. Гэта было ў палове 1993 года. Аргументы Багроўскага пераканалі войта. Падтрымаў ён задуму аднавіць спартыўны клуб і згадзіўся стаць членам яго праўлення.

— І так вось чацвёрты год прадаўжаем працаваць, — гаворыць з задавальненнем трэнер. — Ужо ў 1994 г. перайшлі мы з „Б" класа ў „А". Там таксама займаем вядучае месца. Амаль не ўвайшлі ў „акрэнгуўку". На чатырнаццаць камандаў апынуцца ў першай пяцёрцы — гэта ўжо поспех... Удзельнічалі ў спаборніцтвах на кубак Польшчы. У 1993 г. дайшлі да паўфіналаў. Прайгралі з „Супраслянкай". У 1994 г. былі ўжо ў фінале. Аднак і тым разам нам не пашанцавала. Прайгралі з Васількавам. Ды сілы былі няроўныя. Працаўнікі нашы — гэта каманды трэцяй лігі, а мы толькі з „А" класа. Гэты матч мы ігралі як афіцэры з салдатамі.

— Значыцца, ты зноў працуеш трэнерам?

— Згадзіўся. Ды як мог адмовіцца пры такой падтрымцы новага праўлення, у саставе якога войт гміны а таксама Анатоль Аніщук і Мікалай Янчук. Гэта людзі адказныя. І хлопцы нашы не падводзяць...

— А як з фінансамі зараз?

— Як у кожнага з нас, пустэча ў кашальку. Гміна нешта дае, і з білетаў крыху маем. Трэба сказаць, што вялікую дапамогу маем з боку чыгуначных начальнікаў. Яны ў асноўным забяспечылі нас неабходнымі прыладамі і касцюмамі. Рабочыя таксама многа памаглі пры добраўпарадкаванні стадыёна...

— Гавораць, што чаромхаўскі стадыён лічыцца найбольш дагледжаным у ваяводстве?

— Гэта праўда. Мы клапоцімся аб ім. У час засухі ўключаем водаправод і паліваем усю пляцоўку, косім траву, аднаўляем лаўкі для балельшчыкаў. Зрабілі назіральную вышку для суддзі і рэпарцёраў. Усё робіцца ў грамадскім пачыне.

— У цябе ёсць сям'я. Як пагаджаеш грамадскую працу ў клубе з сямейнымі абавязкамі?

— Цяжка прыходзіцца. Можна сказаць, што ў хаце з'яўляюся госцем. Апрача прафесіянальнай працы (працую пазменна) прыходзіцца выязджаць у розныя месцы, каб аформіць розныя справы.

На сённяшні дзень СКС „Калеяж" у акруговай лізе займае вядучае месца. На разыграных 20 матчах атрымалі 48 ачкоў, забілі 54 галы, а прапусцілі 16. За „Калеяжам" апынуўся футбольны клуб з Нарвы (39 ачкоў). Але ён не пагражае чаромхаўскім футбалістам. Калі я пісаў гэтыя радкі, Багроўскі са сваёй камандай рыхтаваўся да матча з беластоцкім „Влукняжам". Які будзе вынік, цяжка сказаць, Аднак я жадаю сваім футбалістам перамогі!

**Уладзімір Сідарук**

# Пра чыгунку і не толькі

„Варта аб гэтым падумаць!"— гэта загаловак публікацыі У. Сідарука, якая датычыць прыпынку Леўкі, што ў Бельскай гміне. Гэта праўда, што будынак на чыгуначным прыпынку ў Леўках непатрэбны чыгуначным уладам. Так, як непатрэбны чыгуначны шлях які спалучаў Бельск з Белавежай. Ходзіць чутка, што з-за нерэнтабельнасці спыніцца рух на шляху Чаромха — Бельск. Чыгуначнае палатно патрабуе грунтоўнага рамонту, а на гэта чыгуначная каса не мае грошай. Колькі ў гэтым праўды, не ведаю. Але па ўсяму відаць, што лёс чыгуначнага шляху Бельск — Чаромха нецікавы. А калі і на гэтым шляху спыніцца пасажырскі і таварны рух, тады вольнаму воля.

Пытаюся я ў свайго 10-гадовага ўнучка: „Што ў цябе, Лукаш, за прылада такая дзіўная?" — „Гэта рагатка, дзедку, — адказвае ён, — для разбівання бутэлек".

І так мала-памалу крочаць да нас, і мы да іх, дэмакратыя і незалежнасць. І побач з тым ломяцца крэслы на стадыёнах а ні ў чым невінаватых людзей спярша абкідваецца балотам, а затым робіцца захады пасадзіць іх у турэмныя засценкі. Міністра абкідваецца яйкамі.

Мала таго, яшчэ і суседзяў намагаюцца павучаць, якім спосабам завесці дэмакратыю і незалежнасць. У нядзелю, 2 чэрвеня, спадар Юрка Ляшчынскі грымеў па радыё: „Людзі на Беларусі, абудзіцеся!" Не ведаю, па якой старане спадар рэдактар Ляшчынскі. Ці па старане прэзідэнта, які быў выбраны дэмакратычным спосабам? Ці па старане Беларускага народнага фронту? Ведаю толькі, што гора быць у канфлікце з суседзямі. Народная прыказка гаворыць: „Не саджай носа не ў сваё проса". Прыклады барацьбы за незалежнасць — гэта Югаславія і Чачня. Падобнае пекла ўзнікне і на Беларусі?! Хто за гэта і які ганарар возьме? Калі я запытаўся ўнучка навошта яму разбіваць бутэлькі, не змог ён на гэта даць сэнсоўнага адказу. Гэта зразумела не толькі мне: разбурыць краіну вельмі проста, толькі трэба ўмець адказаць навошта яе разбураць. Сама незалежнасць і дэмакратыя народу не накормяць!

**Валянцін Семянюк**

## ПАРНАСІК

**Сям'я**

Многія ўжо памерлі ад Адама
грэху.
Але што ўваскрэснем — маем усе
суцеху.
Калі ўваскрэсне Лявон-дзед,
Будзем есці ў яго мёд.
А калі ўваскрэсне дзядзька,
Будзем мець золата я і Надзька.
А у бацькі — як у краме:
Ўсе прадукты падасць маме.
Дровы будзе секчы Мішка.
Грыбоў назбірае Грышка...
Ёсць надзея, што ўсе ўстануць,
І ў Дом апекі заглянуць,
Бо пан доктар усё пытае:
„Чаму сям'я не прыязджае?.."

**Мар'я Пень**

# У краіне зганьбаваных святыняў

**Чым жыве сённяшняя Беларусь? Вельмі многа на гэту тэму можа сказаць ліст, які нядаўна прыйшоў у нашу рэдакцыю з Менска. Характэрны ў ім многія дэталі; па-першае: гэта думкі не стойкага патрыёта-адраджэнца, але звычайнага рускамоўнага грамадзяніна рэспублікі (пераклад зрабілі мы самі); па-другое: пакуль звярнуцца да нас, аўтар прайшоў, як сам піша, усе інстанцыі на радзіме, але нідзе яму не далі выказацца (ці такі ўжо крымінал ён піша?); па трэцяе: аўтар свой адрас пакідае толькі да ведама рэдакцыі, баючыся рэпрэсій за тое, што ён шчыра выказаў.**

Мне неабыякавы лёс Радзімы, таму мне хацелася б падзяліцца некаторымі думкамі з чытачамі вашага штотыднёвіка, які я глыбока паважаю. Я ніколі не быў прыхільнікам Аляксандра Лукашэнкі, не галасаваў на яго на выбарах, але, наогул кажучы, не быў здзіўлены тым, што народ Беларусі выбраў свайго лідэра, паверыўшы вобразу простага, сумленнага і бескампраміснага „змагара з карупцыяй”. Аднак нейкі фальш у гэтым жа вобразе быў, напрыклад, у эпізодзе з „абстрэлам аўтамабіля” ды і не толькі. Сёння, пасля паўтара года ад выбараў першага прэзідэнта, расчараваны ў сваіх спадзяваннях, даведзены да мяжы жабрацтва народ Беларусі прабуе зразумець, чаму такі блізкі, такі даступны ў зносінах, проста „свой у дошку” Прэзідэнт, гатовы аддаць жыццё за простых рабацяг, так цынічна і беспардонна здраджвае жыццёвыя, нацыянальныя, культурныя інтарэсы гэтага самага працоўнага народа. Сродкі масавай інфармацыі (незалежныя) спаборнічаюць у падліку законаў, артыкулаў Канстытуцыі і іншых юрыдычных актаў, якія парушаюцца Прэзідэнтам, але ён паводзіць сябе так, быццам бы гэта яго не датычыла: метадычна і паслядоўна з'яўляюцца на свет Божы рашэнні і пастановы, у якіх асноўную сэнсавую нагрузку нясе фраза: „Нягледзячы на... забяспечыць няўхільнае выкананне чаргова-га Указа...” Тое, што ў праваым, цывілізаваным грамадстве лічыцца абсурдам і нонсенсам, у нашай краіне становіцца нормай жыцця. І ў такой сітуацыі, відавочна, дарэмна заклікаць прытрымоўвацца Закону, Канстытуцыі, рашэнняў Вярхоўнага Савета, Канстытуцыйнага Суда, паколькі рэакцыю няцяжка ўявіць: Канстытуцыя нязздзейснена, законы „ўстарэлі”, Канстытуцыйны Суд краіне непатрэбны, Вярхоўны Савет займаецца кан'юнктурай і т.д. А калі б глянуць на дзейнасць Прэзідэнта і створанай ім дзяржаўнай сістэмы з пункту гледжання маральна-этычных норм, правераных тысячагоднім вопытам чалавецтва і выкладзеных у кнігах Біблії? Дык жа гаварыць сёння аб тым, што Біблія — опіум для народа, мякка кажучы, неразумна.

Эпіграфам для гэтай тэмы я ўзяў бы апошнія словы Цара Давіда: *Той, хто пануе над людзьмі будзе праведны, калі панаваць будзе ў страху Божым.*

Разгледзім некалькі прыкладаў Навейшай Гісторыі Беларусі. Сёння мы становімся сведкамі працэсу ўстанаўлення ў РБ калі не дыктатуры, дык ва ўсялякім выпадку „аўтарытарнай” формы кіравання. Такое ўжо было: калі Майсей у адзіночку прабаваў „судзіць народ”, цесць сказаў яму: *Нядобра ты гэта робіш: ты змучыш сябе і народ гэты, які з табою, або надта цяжкая для цябе гэта справа: ты адзін не можаш выправіць яго* (Выхад, 18: 16-18). Мудры Майсей з увагай слухаў парады цесця: *Ты ўгледзь сабе з усяго народа людзей здольных, якія баяцца Бога, людзей, якія ненавідзяць карысць, і пастаў іх над ім...* (Выхад, 18: 21). А вось у мяне ёсць вельмі вялікія сумненні ў тым, ці „каманда” Прэзідэнта, яго Адміністрацыя і „вертыкаль” адпавядаюць гэтым якасцям, паколькі *які валадар народа, такія і служачыя пры ім* (Сірах, 10: 20).

Любімая ў Лукашэнкі форма праўдзення ў жыццё ягоных ідэй — агульнанародны рэферэндум. На апошнім ашуканы, дэзінфармаваны „электарат” падтрымаў ініцыятывы Прэзідэнта, якія каштавалі нас нацыянальную сімволіку — гонар для любога народа, і ў будучым могуць каштаваць дзяржаўны суверэнітэт. А дык жа сказана: *Не ідзі за большасцю, каб учыніць зло, а даючы паказанні ў судзе, не адыходзь з-за большасці ад праўды* (Выхад, 23: 2). Успомнім расстрэл паветранага шара з амерыканскімі спартсменамі, і словы: *Прышэльца не крыўдзі* (Выхад, 23: 9). Я ўжо гаварыў аб тым, што для А. Лукашэнкі не існуе Закон, Канстытуцыя, Права: *Саромцеся... перад сходам і народам — беззаконня* (Сірах, 41: 22). Прэзідэнт не пераносіць крытыкі ў свой адрас, але: *Лепш слухаць выкрыванні ад разумнага, чым слухаць песні дурняў* (Екл., 7: 5).

У мінулым Беларусь была адной з самых багатых рэспублік СССР. Сёння — наўрад ці не самая бедная. Адсутнасць у дзяржаўнай палітыцы Прэзідэнта матываў, накіраваных на ўмацаванне нацыянальных інтарэсаў, палітычнай і эканамічнай незалежнасці прывяла да краху ў эканоміцы і не прыдала пашаны нам з боку іншых краін. І замест таго, каб паклапаціцца пра тых, чыімі рукамі стваралася багацце краіны, якое цяпер страчваецца ў форме акцыяніраваных прадпрыемстваў „з малатка” ў плату за старыя і новыя даўгі, Прэзідэнт за неймаверную суму будуе сабе асабісты самалёт, якога няма нават і ў Прэзідэнта Злучаных Штатаў. Але калі б „праваслаўны атэіст” хаця б раз глянуў у Пісанне, то мог бы прачытаць: *З распусты збядненне і спусташэнне; распуста ёсць маці голаду* (Товіт, 4: 13).

Не ўсе яшчэ забылі збіванне ў Парламенце дэпутатаў апазіцыі, а тым, у каго памяць кароткая, Біблія напамінае: *Прыгнятаючы іншых, разумны робіцца дурнем* (Екл., 7: 7) або: *Як хочаце, каб з вамі абыходзіліся людзі, так і вы абыходзьцеся з імі* (Лука, 6: 31).

Але, мабыць, Прэзідэнт шчыра жадае дабра і росквіту свайму народу і стараецца ўсімі спосабамі, якія лічыць найбольш слушнымі, дабіцца жаданага? Сказана і аб гэтым: *Усе шляхі чалавека чысты ў яго вачах, але Гасподзь узважвае душы. Ёсць шляхі, якія здаюцца чалавеку простымі, але канец іх — гэта дарога да смерці* (Прытчы, 16: 2 і 25).

Думаючы аб гэтым, я прыходжу да вываду, што А. Лукашэнка — малакультурны чалавек у самым шырокім сэнсе гэтага слова, якому чужыя не толькі паняцці сучаснай законнасці і права, але і маральна-этычныя, духоўныя нормы хрысціянства. Не верыцца, што такі чалавек дабравольна адмовіцца ад улады, і менавіта таму ён не павінен забываць, што: *Каму дадзена многа, многа і патрабуецца, і каму многа даручана, з таго больш і сычуць* (Лука, 12: 48) або: *Добрае імя лепшае за духмяныя масці* (Екл., 7: 1).

Час усё расставіць на свае месцы, будзе дадзена і справядлівая ацэнка дзейнасці першага Прэзідэнта Беларусі. Мне думаецца, што калі галава дзяржавы не адмовіцца ад выбранага ім шляху насілля, дэмагогіі, дэзінфармацыі выбаршчыкаў-падаткаплацельшчыкаў, падаўлення свабоды слова, разбурэння дэмакратычных здабыткаў, эканамічнага самагубства нашай дзяржавы, імя яго будзе выклікаць у нашых патомкаў толькі пачуццё горычы і сораму.

**Кастусь Віткоўскі**
*г. Менск, сакавік 1996 г.*

# Дыпламатычная неразбярыха

Эпідэмія выплывання сакрэтаў, якая атакавала польскія спецслужбы, пашыраецца і на ўсход. Вось у Мінску нейкая „Беларуская (Белорусская?) газета” пусціла плётку аб адкліканні генеральнага консула РБ у Беластоку Міхаіла Слямнёва. Консул быццам бы выклікаў незадавальненне начальства няправільнымі паводзінамі ў справе вядомага пікету ў абарону правоў чалавека ў Беларусі. Усё-такі, паводле „Беларускай газеты”, гэта не так і важна. Важнейшае тое, што Слямнёў быццам бы вёў па-п'янаму машыну, на чым яго злавіла польская дарожная паліцыя, а пасля прабаваў справу замазаць. А так наогул, на яго ўжо накоплена куча „кампрамату”.

Гэтую плётку некрытычна паўтарыла мінская „Свабода”. На тым справа быццам бы сціхла.

І вось нечакана „адзін з прадстаўнікоў беларускіх дыпламатычных колаў у Польшчы” інфармуе беластоцкую прэсу, што Слямнёў мае быць адкліканы. Нібыта прэзідэнт Лукашэнка хоча такім чынам сігналізаваць гатоўнасць выправіць узаемаадносіны з Польшчай. Далей згаданы інфарматар абвяргае гэту інфармацыю. Аказваецца, незадавальненне прэзідэнта Лукашэнкі перш за ўсё выклікалі сувязі Слямнёва з коламі беларускай дэмакратычнай апазіцыі. Консул быццам бы патаемна сустрэўся з Зянонам Пазьняком падчас яго візіту ў Беласток. Да таго дадаецца ўвесь „кампрамат” з „Беларускай газеты”.

Чытаеш, і нічога не разумееш. Кожны, хто бачыў консула Слямнёва ў машыне, ведае, што сам ён яе не водзіць. Пра іншы, невядома які „кампрамат” і гаварыць не даводзіцца. У справе пікета консул сапраўды павёў сябе як той „słoń w składzie porcelany”, але Бог з ім. Няпроста быць беларускім дыпламатам у такі час. Калі начальству наогул консул не падабаецца, дык можна было яго адклікаць без лішняга вэрхалу. Так робяць ва ўсім свеце.

А тут і п'янка, і падполле, і чорт ведае які „кампрамат”. Няўмольна ўзнікае пытанне: каму гэта патрэбна?

**Алег Латышонак**



*Тым часам консул Міхаіл Слямнёў з жонкай Галінай захапляўся беларускімі народнымі песнямі ў Беластоцкім амфітэатры.*

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Чэрвеньская катастрофа

***(працяг са стар. 1)***

самалётаў, з якіх большасць не паднялася з аэрадромаў. Гэта амаль 40% усіх машын, якія знаходзіліся на заходнім фронце. У выніку хуткага перамяшчэння гітлераўскіх дывізій і беспераходнай дзейнасці авіяцыі, 28 чэрвеня нямецкая армія была ўжо ў Менску. У акружэнні апынулася амаль 4 мільёны савецкіх салдат. Большасць з іх здалася ў палон і памерла ў нямецкіх канцлагерах ад голаду і хвароб. Нягледзячы на тое, што сёння паказвае мінскае тэлебачанне, на пачатку вайны не было сярод салдат савецкай арміі вялікай ахвоты паміраць за Сталіна і камунізм. Шмат жаўнераў патрапіла сваіх блізкіх у выніку змагання камуністаў з кулацтвам у трыццатых гадах і не надта ведалі, хто з'яўляецца іх галоўным ворагам. Толькі калі дайшлі весткі пра лёс тых, што здаліся ў палон, пачалося змаганне да апошняга патрона. Падобныя былі адносіны мірных жыхароў Беларусі і Украіны да агрэсараў. Нямала было вёсак, у якіх увахозячых немцаў віталі як вызваліцеляў. Неўзабаве аднак людзі пераканаліся, што за войскам прыйшлі такія самыя злачынцы як энкавэдзісты. Тэрор і масавыя расстрэлы адмянілі першапачатковыя настроі.

Ва ўнутранай савецкай палітыцы існавалі прычыны татальнага правалу ад нямецкай агрэсіі ў першых месяцах вайны. Каб не было знішчэння афіцэрскіх кадраў у 1937 г., праўдападобна не было б 22 чэрвеня 1941 г. Гітлер так быў пераканаты ў сваёй перамозе, што планаваў закончыць вайну восенню 1941 г. Не памяншаючы віну гітлераўскай Нямеччыны за пакуты мільёнаў беларусаў, рускіх і ўкраінцаў, найбольшымі віноўнікамі смерці 27 мільёнаў савецкіх грамадзян, тысяч спаленых гарадоў, галечы, голаду і страху былі камуністычная сістэма і сталінскае кіраўніцтва. Сталін і яго акружэнне ваенную кан'юнктуру выкарыстаў для ўмацавання свае ўлады і пашырэння імперыі. Кожны савецкі чалавек вымушаны быў аддаваць запрацаваныя сабою сродкі на пабудову сацыялізму не толькі ў сябе, але таксама ў Польшчы, Нямеччыне, Балгарыі, а пасля Кубе, В'етнаме, Эфіопіі, Мазамбіку. А фікцыя і так з часам развеялася.

**Яўген Міранович**

# Мы пачулі

*8 чэрвеня завяршыўся тайм-аўт у працы прэзідэнта. Як было афіцыйна заяўлена, кіраўніку дзяржавы патрэбны быў рэабілітацыйна-аднаўленчы перыяд. Па інфармацыі медыкаў, на сённяшні дзень стан здароўя Аляксандра Лукашэнкі здавальняючы і ніякай трывогі не выклікае, што радуе,* — заявілі ў панядзелак, 10 чэрвеня, дыктары І і ІІ праграм Беларускага радыё.

Нас таксама радуе гэтая вестка, бо будзем мець пра што пісаць. Аднак баімся, што пасля выбараў у Расеі чарговае паведамленне аб стане здароўя Аляксандра Лукашэнкі можа ўжо інфармаваць, што прэзідэнт Беларусі „очень больной”.

# Бязмежжа, маргінальнасць, чарапашкі ніндзя

**Ігар БАБКОЎ: Зайшоўшы ў кнігарню і ўбачыўшы там новае замежнае прозвішча, я перш тэлефаную Адаму Глёбусу і пытаю, ці асоба з такім прозвішчам напэўна існуе...**



*Адам Глёбус і Ігар Бабкоў.*

14-15 чэрвеня г.г. прайшоў у Гайнаўцы беларуска-польскі літаратурны семінар „Бязмежжа'96". Арганізаваўся ён Беларускім саюзам у Польшчы. Як сказаў ва ўступе старшыня Саюза **Яўген Вапа**, загалоўнае „бязмежжа" ўяўляе бязмежжа межаў, бязмежжа літаратуры, а таксама і бязмежжа чалавечых сустрэч. Ідэя, быццам, прыдумалася гадоў 5 таму, хоць у той час была толькі думка пра нейкі літаратурны зборнік, а не семінар. Паводле Я. Вапы, падобныя сустрэчы могуць адбывацца штогод. Так, прынамсі, запэўніваюць спонсары мерапрыемства.

Гутарка ў час гайнаўскага семінара вялася пра мадэрн у беларускай літаратуры. З сінтэтычным дакладам пра хвалі адраджэння беларускай літаратуры выступіў **Алесь Бяляцкі** — дырэктар Музея М. Багдановіча ў Менску. Навуковая абгрунтаванасць даклада і завершанасць літаратурнага працэсу, якая прабівалася ў выказванні А. Бяляцкага, стала зачаткам дыскусіі. З „татальнай крытыкай" гэтай завершанасці выступіў **Ігар Бабкоў**. На яго думку, літаратура развівалася хутчэй па прынцыпе разрыву, чымсьці строгай выніковасці і паслядоўнасці працэсу. Літаратура перыяду „Нашай Нівы" мела шляхецка-народніцкі характар. Беларуская савецкая літаратура ўяўляла вясковасць і настальгію. Спадчынай пакалення сярэдзіны 80-х гадоў стала *сувенірная* культура і літаратура, а ў гэты ж якраз час прыйшла генерацыя рэальных спажыўцоў культуры. Змяніўся таксама іх сацыяльны пласт — яны ўрбанізаваліся. З сярэдзіны 80-х гадоў, на думку І. Бабкова, пачынаецца фармаванне другога мадэрна ў беларускай літаратуры, які стаў выбіваць з літаратуры сацыяльна-грамадскую тэматыку.

На думку **Яна Максімюка**, абодва мадэрны (нашаніўскага перыяду і сучасны) адрознівае стаўленне літаратараў да ідэі беларускага адраджэння. Пакаленне пісьменнікаў пачатку нашага стагоддзя вызначалася грамадска-палітычнай ангажаванасцю — яно выступала з пазіцыі „што мы можам зрабіць для Беларусі". Сучаснае пакаленне літаратараў ставіцца наадварот — „што Беларусь зможа зрабіць для мяне асабіста", калі я буду духоўна атаясамлівацца з беларускасцю (напрыклад, пісаць па-беларуску).

Той жа моўца спрабаваў прасачыць *праекты ў беларускай літаратуры* ў люстэрку маргінальнасці. Маргінальнасць, пераконваў Я. Максімюк, мы можам успрымаць як эстэтычную катэгорыю. Сама маргінальнасць разумецца тут як пісьменства, якое не ўпісваецца ў абавязваючую ў дадзены момант літаратурную плынь. Прыкладам такой літаратуры ў нашаніўскі перыяд з'яўляецца творчасць Максіма Багдановіча — самага вялікага, можна сказаць, маргінала ў беларускай літаратуры.

Цікава было пачуць у час семінара і інфармацыю пра цэны кнігаў у менскіх кнігарнях — каштуюць яны там 10-15 доляраў. Ігар Бабкоў лічыць, што людзі паціху перастаюць чытаць. Змянілася стаўленне да кнігі — за апошнія гады нават расейскамоўныя тыражы знізіліся са 100 да 30 тысяч.

**Адам Глёбус** (Уладзімір Вячаслававіч Адамчык) закрануў у час гайнаўскага семінара тэму шчырасці і эротыкі ў беларускай літаратуры. Распад імперыі, паводле А. Глёбуса, стаў пачаткам некалькіх рэвалюцый у тамашнім грамадстве — палітычнай, эканамічнай і сексуальнай. Гэтая апошняя самая блізкая пісьменніку. З некаторай нечаканасцю даведаўся я, што кнігу „Дамавікамэрон" Адама Глёбуса чытаецца ў Менску перш за ўсё з пазіцыі „ці абы я туды не трапіў". На Беласточчыне яна чытаецца і перачытваецца з увагі на вялікі зарад менскай рэальнасці, які закладзены ў апавяданні. Сам жа пісьменнік пра „Дамавікамэрон" у Гайнаўцы сказаў так: пасля прыходу Лукашэнкі ўсе мае героі (дамавікі, хуты, пачвары) сталі як бы фіктыўнымі, мультыплікацыйнымі, а Лукашэнка — адна рэальнасць. А. Глёбус, адказваючы на пытанні, запэўніў аднак, што ўсе героі „Дамавікамэрона" маюць сваю адпаведнасць у рэальных асобах, нават Адпачыльнік з апавядання „Прыбіральнік".

— Калі б мы тут не гаварылі пра беларускую літаратуру, — у час перапынку А. Глёбус закрануў тэму кнігавыдавання, — я б вам сказаў, якім тыражом можна выдаць кнігу...

Пісьменнік, як мяркую, меў тут на ўвазе „Рэта Батлера" — сусветна вядомы працяг рамана „Gone with the Wind", які ў былым Саюзе разышоўся тыражом у 4 мільёны паасобнікаў. Дапоўню ў гэтым месцы, што згаданая кніга не з'яўляецца адзіным камерцыйным праектам — чарапашкі ніндзя дачакаліся ўжо 25 тамоў на сваю тэму; лялька Барбі — шасці.

**Аляксандр Максімюк**

*Фота Міколы Ваўранюка*




*Алесь Бяляцкі і Ян Максімюк.*

# Заканадаўства і нацыянальныя меншасці

На пачатку г.г Хельсінскі фонд правоў чалавека выдаў чарговы том сваіх рапартаў і экспертыз, гэтым разам прысвечаны ахове правоў нацыянальных меншасцей у краінах Еўропы. Палітычныя змены на ўсходзе кантынента не толькі прывялі іх на шлях дэмакратыі, але таксама разварушылі праблемы, якія не выступалі ў таталітарных сістэмах кіравання. На хвалі аховы правоў чалавека і свабоды слова выраслі патрабаванні нацыянальных меншасцей упарадкаваць іх культурнае жыццё згодна з прынцыпамі, якія стварыла міжнароднае заканадаўства і пад якім падпісаліся ўсе ўрады ўсходняй Еўропы.

Зацікаўленне аховай правоў нацыянальных меншасцей узрасло асабліва ў час югаслаўскай вайны, калі лакальны канфлікт развеяў ілюзію бяспечнай Еўропы і адначасова паказаў колькі эмоцый і садызму выклікае міжэтнічная варожасць. Таму ў большасці еўрапейскіх краін кіруючыя эліты стараюцца не дапусціць да ўзнікнення канфліктных сітуацый з-за нацыянальных недаразуменняў і загадзя стварыць юрыдычныя ўмовы для суіснавання людзей розных культур ці веравызнанняў.

Не спыняюць таксама свае дзейнасці міжнародныя арганізацыі, пастаянна мадэрнізуючыя агульныя прынцыпы нацыянальнай палітыкі, якія павінны абавязваць ва ўсіх цывілізаваных краінах.

Выданне Хельсінскага фонду правоў чалавека змяшчае ўсе пагадненні, якія з'яўляюцца афіцыйнымі дакументамі міжнароднага права ў адносінах да нацыянальных меншасцей, а таксама ўнутранае заканадаўства Аўстрыі, Беларусі, Латвіі, Літвы, Украіны, Нямеччыны, Італіі. У кніжцы прадстаўлены таксама праекты закону аб нацыянальных меншасцях, які ўжо пяты год рыхтуецца ў Сейме Рэчы Паспалітай.

Параўнанне заканадаўства, рэгулюючага жыццё нацыянальных меншасцей успомненых еўрапейскіх краін і Беларусі паказвае, што беларускае права мае вельмі гуманны і ліберальны характар. На практыцы справа маецца лепш, чым у тэорыі. Мова адная з нацыянальных меншасцей стала дзяржаўнай, а родная мова большасці — ледзь талераванай уладамі з'явай. Пакуль што ніхто ў свеце не падумаў стварыць права дзеля абароны мовы і культуры большасці, бо нідзе не было такой патрэбы.

**рэд.**

---

*Ochrona praw osób należących do mniejszości narodowych. Raporty, ekspertyzy, opinie*, t. 12, wyd. Helsińska Fundacja Praw Człowieka, Warszawa 1995.

# Новыя вершы

**Барыс Руско**

## Пустая прастора

З восьмага паверха
бачу сумныя твары,
і толькі.
Відаць, людзі іншыя,
з моднай прыкідкай.
Губляю позіркі
і выцягнуты рукі
ў шрамах.
Зыходжу прыпынкам бліжэй,
ці далей,
так заведзена.
Навошта такая рэклама,
калі спатыкаюся
на фольгавай торбе?
Дзе дзверы?
вокны?
дарогі?
змрок?
шэпт?
дотык?
І ўсё прада мною
чаканне
і пустая прастора
кватэры.

## Не плачце, жанчыны

Дарога да смерці доўгая,
нават найкароткая.
Крыж з дрэва сухога,
як глыба цяжкі.
Цвік паліць джалам
тысячы шэршняў,
а кроў, як лава
з глоткі вулкана,
з раны несмяротнай
сцякае.
Не плачце, жанчыны,
слова святыняй
на адхоне стане.
Нялёгка будзе
адчыніць дзверы
і ў вадзе праўды і прабачэння
абмыць сумленне,
і ўкленчыць
на жыцці ўласным.

## Ля вадаспада

Вадаспад стогне.
У красках вясёлкі
сусвет у разгоне.
Пульс плоскасцей мяккіх
няўлоўны.
Валун шчарбаты
фантанам пырскае
ў мае далоні.
Вылаўліваю
месяца асколкі.

## Нябыт

У куфэрку замкнёныя
ўсе склады,
згорнутыя ў маўклівую чэрнь
усе краскі,
непрысутнае полымя
і глыбокая ціш,
спіць волат, як мумія
ў вантробах пірамідаў.
У гушчы поля
даспявае страсць,
бы ўзор
на карціне майстра.
А Вока бачыць,
і нябыт лопае.

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

### Беларусь мая

Роднае месца.
Родная зямля.
Беларусь мая.
Кахаю цябе я.
Святая зямля
Кветкамі прарасла.

**Кася Русіновіч**
**VI кл. ПШ у Нарве**

### Хто гэта?

Ведаеш, хто табе
казкі расказваў,
песні прыгожа спяваў.
Калі сумна было,
хто цябе прытуліў да сябе.
Хто?
Гэта наша маці,
пяшчотная, клапатлівая,
адзіная ў свеце.
Матуля праўдзівая.
Я яе так бачу.
А ты?
Скажы шчыра.

**Ева Прафірук,**
**V „а" клас ПШ № 3**
**у Бельску-Падляшскім**

## Кветка папараці

Лясная папараць расце.
Як зорка ў сэрцы зацвіце,
Споўняцца ўсе жаданні.
Але якое гэта шчасце,
Калі з нікім
Нельга падзяліцца ім?!
Калі толькі яна для мяне,
Не сарву я яе;
Няхай лепш тая кветка завяне.
Ніхто не хоча мець такога шчасця.

**Ева Аншчук**
**VI кл. ПШ у Кленіках**



*„Каханне". Мал. Агнешкі КАЧАНОЎСКАЙ з VI кл. ПШ у Чыжах*

## Купалле

Купалле — гэта свята сонца, разросту жыцця, сіл прыроды, якая дасягае ў гэтым часе свайго найвышэйшага развіцця, гэта самае насычанае абрадамі старажытнае свята. Адзначаецца яно ў ноч з 23 на 24 чэрвеня (паводле старога стылю). У купальскіх абрадах вялікае месца займае сімволіка дзвюх стыхій — агню і вады.

Купальскае вогнішча — у цэнтры ўсяго свята. Яшчэ ў мінулым стагоддзі яго запальвалі старадаўнім спосабам, тручы адзін аб другі брусы дрэва. У купальскім агні бачылі ачышчальны і ахоўны пачатак. Вакол купальскага агню моладзь вадзіла карагод.

Раней сцвярджалі, што купальскія агні маюць сілу даваць ураджай і праганяць смерць. Скакалі праз агонь, закаханыя — парамі. І калі іх рукі не разыходзіліся, то гэта добрая прыкмета: вяселле іх у гэтым жа годзе павінна было адбыцца. Праз увесь час ля вогнішча не змаўкалі песні, жарты. Пасля моладзь ішла да рэчкі, дзяўчаты пускалі вянкі на ваду. А сталыя людзі гутарылі аб мінулым, згадвалі пра ўсялякія дзівосы.

У язычніцкія часы нашы далёкія продкі верылі, што ў гэты дзень сонца ў вобразе дзецюка спраўляе вяселле з багіняй лета. І яны збіраліся між сёл на ўзгорках, каля вады, ладзілі там ігрышчы ды ў гэту ноч „умыкалі" сабе дзяўчат на жонак. А каб такі шлюб меў законную сілу, дапаўнялі яго ўстаноўленымі звычаямі: ачышчаліся ад грахоў, купаючыся, скачучы праз вогнішча. Людзі верылі, што ў гэту ноч зацвітае кветка папараці, якая дае чалавеку шчасце і сілу, паведамляе пра ўсе таямніцы прыроды. Здабыць кветку шчасця вельмі цяжка. У самую поўнач, калі яна павінна раскрыцца, таму, хто шукае кветку, здаюцца розныя страшыдлы. Яны імкнуцца перашкодзіць чалавеку. Надыходзіць навальніца, зіхаціць бліскавіца, грыміць гром. Каму ж удалося сарваць кветку, павінен ісці, не аглядаючыся, дамоў і не звяртаць увагі на пагрозы і спакусы ведзьмаў.

Захавалася паданне, што аднаму селяніну кветка трапіла ў абутак і ён мог бачыць тое месца, дзе захаваны скарб. Але яму трапілася ведзьма і прапанавала новыя боты. Чалавек абрадаваўся і прыняў прапанову. Але, на жаль, абуваючы боты, страціў запаветную кветку, а з ёю і ўсё шчасце.

Верылі, што ў купальскую ноч вельмі многа ўсякай нечысці, асабліва ведзьмаў. Павер'і суправаджаліся рознымі засцерагальнымі дзеяннямі. У некаторых мясцінах мужчыны ўсю ноч ахоўвалі жыта, бо калі ведзьма сарве некалькі каласкоў, жыта перастане радзіць. Асцерагаліся, што ведзьмы могуць адабраць у кароў малако, таму гаспадары абсыпалі хлеў макам, на парог клалі крапіву-жыгучку, а на вароты хляву вешалі калючы дзядоўнік. Коней не выводзілі на начлег.

Лічылася, што зёлкі, сабраныя ў ноч на Купалле, маюць цудадзейную сілу. Гэта вераванне грунтуецца на шматвяковым назіранні за прыродай, за лекавымі ўласцівасцямі раслін. Яно і на самай справе так. Купалле — зеніт лета, пара, калі сонца дасягае свайго апагею, было і часам даспявання траў. Натуральна, што сабраныя гэтай парою зёлкі мелі пэўную лекавую моц.

Людзі заўважылі, што на Купалле рэчкі і азёры свецяцца прывідным святлом. Сапраўды, месяц у гэтую пару моцна адбівае сонечныя промні і безвоблачнай ноччу паверхня вадаёмаў можа адсвечвацца блакітным святлом.

*(З кніжкі Валянціны Раманцэвіч „Пачаткі роднае мовы")*

## Паэт у дзяцей



Клас III „е" бельскай „тройкі" пазнаёміўся з вершамі Віктара Шведа дзякуючы „Зорцы". Вучням яны вельмі падабаліся, таму вельмі яны цешыліся з магчымасці сустрэцца з паэтам.

Спадар Швед наведаў сваіх „паклоннікаў" 3 чэрвеня. Расказаў ён дзецям пра сваё дзяцінства, пра першыя вершы, пра сваю любоў да навукі і роднай мовы. Вучні ўважліва слухалі расказу, а потым і вершаў, тых з першага зборніка „Жыццёвыя сцежкі" і тых са зборніка для дзяцей „Вясёлка". Усім яны спадабаліся.

На заканчэнне сустрэчы Віктар Швед адказваў на пытанні дзяцей, прадаваў і падпісваў свае кніжкі. А потым усе зрабілі сабе памятны здымак.

**Аліна Ваўранюк**
*Фота аўтара*

## Крыжаванка № 26

Запоўніце клеткі адпаведнымі словамі, а атрыманы лозунг (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 21.**

Лозунг: **Маладзёжны хор.**

Узнагароды — запісныя кніжкі — выйгралі: **Івона Коршак, Гжэгаж Мартынюк і Данель Банькоўскі** з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Дарак Кураш** з ПШ у Ласінцы і **Анна Тэслюк** з ПШ у Новым Корніне.

**Віншуем!**

***(Апрацавала Галіна БЕЛАВЕЖАЦ, VI кл. ПШ у Кленіках)***

чырвоны ў агародзе
растуць у ім грыбы
... Вярнідуб
штотыднёвік на беларускай мове
плавае ў вадзе
пачынаецца званком у школе
фруктовы лес
прыпраўляем ёю стравы

**Талон „Зоркі" № 26**
**30.06.1996**

# Перамога

Пані рэдактар „Зоркі” параіла мне пісаць пра свае поспехі ў занятках па бальных танцах, бо гэта тэма цікавіць вучняў пачатковых школ, а нават і ліцэяў. Пэўна, што буду пісаць! Было б мне вельмі прыемна, калі б танцамі занялося як мага больш чытачоў „Зоркі”. Гэта ж і ў жыцці прыдасца, і фізічная трэніроўка, так патрэбная нашаму арганізму.

У мінулым годзе (ад жніўня) я пачала танцаваць з новым партнёрам — Якубам Вайдановічам. Ён, як і я, у пятым класе. Да новага года мы нікуды не выязджалі: трэніраваліся! Цяжка прызвычаіцца да новага партнёра, тым больш, што Якуб амаль цэлы год не танцаваў, так што былі пэўныя праблемы.

У пачатку снежня мы ўжо былі амаль гатовы выступіць ў турніры (якраз меў адбыцца чэмпіянат акругі ў Сувалках), калі Якуб зламаў нагу. Давялося адкладваць выступленне. Праўда, костачка ў ступні майго партнёра хутка зраслася, але ўвесь студзень давялося яму хадзіць на фізіятэрапію і нельга было шмат танцаваць, не гаворачы аб тым, што забаронена яму было хадзіць на гімнастыку. Пакрысе аднак мы танцавалі.

28 студзеня рашыліся на першае выступленне. Агульнапольскі турнір у Чорнай-Беластоцкай быў вельмі вялікі. Толькі ў нашай катэгорыі (11–12 гадоў) стартавала 60 пар. І... адразу вялікая неспадзеўка: ІІ месца з розніцай аднаго пункта ад першага месца.


Першы раз выступілі ў Чорнай-Беластоцкай і занялі ІІ месца.

Першы поспех акрыліў нас. Значыцца, наша праца не змарнавалася! Пачаліся інтэнсіўныя трэніроўкі пад пільным вокам нашага інструктара Кшыштафа Бяляўца (клуб „Ціп-топ”). Па лацінаамерыканскіх танцах бралі лекцыі ў Кацярыны Ехны з Ольштына і Кшыштафа Трэнтоўскага, які прыязджаў з Лондана.

Неўзабаве быў турнір „Артэлі” ў Беластоку, дзе мы занялі V месца, пасля ў марозе паехалі мы на агульнапольскі турнір у Астралэнку. Там занялі IV месца.

На працягу пяці месяцаў мы выступілі ў дзесяці турнірах. Танцавалі яшчэ ў Плоцку, у Варшаве, у Беластоку („Залатыя туфелькі” — міжнародны турнір), у турніры, які арганізаваў клуб „Вясёлка” ў Беластоку, і ў Лапах, на агульнапольскім турніры „Тан-тан”. З гэтых васьмі турніраў толькі ў двух мы не дайшлі да фіналу (у Варшаве і ў „Залатых туфельках”). У прэстыжным турніры клуба „Вясёлка” ў Беластоку нам удалося заняць ІІІ месца, а ў Плоцку — ІІ месца, там за намі ў фінале апынуліся пары з Любліна, Астралэнкі, Быдгашчы, Варшавы.

У Лапы мы вельмі баяліся ехаць: у мяне ад гэтых турніраў засталіся не вельмі прыемныя ўспаміны з мінулых гадоў. Я танцавала ўжо там два разы і заўсёды мы з маім ранейшым партнёрам даходзілі толькі да чвэрцьфіналу.

Турнір у Лапах праходзіў 1 чэрвеня, якраз у Міжнародны дзень дзіцяці. Мы марылі, каб хаця дайсці да паўфіналу. Пачалі ад 1/8 фіналу, 36 пар! Хаця б да 1/4! А так, прайшлі першы раўнд. Можа ўдасца да 1/2! Вядучая турнір дзякуе ўсім парам, а асабліва „некатарым”. У галаву нам нават не прыйшло, што сярод гэтых „некаторых” былі і мы. Ёсць паўфінал! З яго ўдзельнікаў выберуць 6 найлепшых пар. Даем з сябе ўсё: трымаем галаву, усміхаемся, стараемся танцаваць так, каб стваралася ўражанне, што нам вельмі лёгка і весела. І вось мы ўжо ў фінале.


Перамога прыйшла ў Лапах.

Пачалі ад лацінаамерыканскіх танцаў (самба, ча-ча-ча, джайф). Кожную пару ацэньвалі яўна, гэта значыць, кожны суддзя паказваў, якое месца ён прызнае кожнай пары. У мяне стала лёгка на сэрцы, калі я ўбачыла, што галоўны суддзя Генрык Малышка, суддзя з Варшавы і яшчэ адзін суддзя даюць нам першае месца. Двое суддзяў давалі трэцяе-чацвёртае месца. Значыцца, танцуем някепска!

А пасля пачалі танцаваць стандартныя танцы (англійскі вальс, куік-стэп, венскі вальс). І... мы не верылі ўласным вачам: усе суддзі да аднаго далі нам першае месца за ўсе танцы. Камплект першых месц! Такога я яшчэ за гэтыя тры гады не перажывала. Гэта была перамога. Ну, і зрабілі мы самі сабе падарунак на Дзень дзіцяці.

15 чэрвеня мы выступілі ў Цеханове ў турніры „Залатыя чаравічкі”. Занялі ІІ месца і атрымалі сярэбраны медаль. І месца заняла пара з Познані. А 16 чэрвеня ў турніры, які штогод арганізуе Беластоцкая палітэхніка, мы таксама апынуліся ў фінале і занялі IV месца.

**Адрыяна Семянюк**

*Фота А.Ч.*

# Мае „Сустрэчы”

Людзі любяць займацца розным. Адных цікавіць спяванне, іншых — чытанне кніжак або слуханне музыкі. Мне вельмі падабаюцца цікавыя сустрэчы „Зоркі”, на якіх я ўжо была другі раз. Апошняя сустрэча адбылася 1 чэрвеня ў Бельску-Падляшскім. Гасціну зрабілі нам бацькі вучняў Пачатковай школы № 3, за што шчыра ім дзякую. Пасля прыезду мы пазнаёміліся з астатнімі ўдзельнікамі спаткання.

Нашай задачай было размаляваць крыж, пад якім упершыню мы памаліліся з удзелам айца Георгія Такарэўскага. Калі пачалі працу, да нас далучылася спадарыня Аліна Ваўранюк, якая памагала нам пры маляванні. Хаця не ўсе вылучаліся вялікім талентам, кожны стараўся як толькі мог. У размаляванні крыжа дапамагалі таксама старэйшыя сябры — Грышка Зінкевіч і Алег Кабзар, якія глядзелі, ці добра спраўляемся з работай. Каб ля крыжа не было надта людна, што перашкаджала б у маляванні, падзялілі нас на дзве групы. Калі мы малявалі, астатнія пайшлі наведаць цікавыя месцы горада. Працаваць трэба было дакладна. Калі яны вярнуліся з экскурсіі, наша група канчала ўжо маляваць свае іконкі. Усіх нас запрасілі на абед у ліцэйскі клуб побач бельскай „тройкі”. Цяпер тыя, хто ўжо наведаў горад, узяліся за размалёўку пустых яшчэ клетак на крыжы. Мы зрабілі перапынак і разам з апекунамі — Дарафеем Фёнікам і Валянцінай Бабулевіч пайшлі ў цэнтр горада і ў тыя мясціны, пра якія пачулі цікавыя легенды. Асабліва спадабалася мне легенда пра Лысую гару. Пасля экскурсіі апекуны купілі нам марожанае. Вярнуўшыся ў школу, мы пабачылі размаляваны крыж. З адной старany на сярэдзіне напісана была малітва, а пад кожнай іконкай быў надпіс з імем святога на беларускай мове. Другая старана крыжа была падобная на першую ў тым, што там таксама былі змешчаны выявы святых.

Цяпер усе сталі рыхтавацца да асвячэння крыжа, вывучаць адпаведныя царкоўныя песні. Вечарам прыйшоў айцец Фёдар Верамяюк, які памаліўся супольна з намі і пасвяціў крыж. На гэтай урачыстасці было многа людзей, у тым ліку і айцец Віталій Гаўрылюк, які вучыць рэлігіі ў нашай школе.

Па вячэры мы разышліся па дамах нашых бельскіх сяброў. Я начавала ў малодшай сяброўкі з калектыву „Журавінка”. Яе завуць Агата Гуральчык. На наступны дзень з самой раніцы трэба было з усімі развітацца, паколькі мы ад'язджалі дахаты.

Важную ролю на сустрэчы адыгрывала спадарыня **Ганна Кандрацюк**, якая зрабіла многа цікавых здымкаў. Яна была таксама адным з галоўных арганізатараў „Сустрэч”. Гэтае спатканне не было б такое цікавае без яе.

Я вельмі цешуся, што магла паехаць і спаткацца з усімі знаёмымі з ранейшай сустрэчы ў Бандарах.

**Ірэна Кулік**
**вучаніца VII кл. ПШ**
**у Дубічах-Царкоўных**

# Я пачала пісаць вершы

Мяне завуць **Марыля Аксянцюк**. Я вучуся ў VI класе Пачатковай школы ў Старым Корніне. Мой настаўнік беларускай мовы называецца **Васіль Сегень**. Клас мой невялікі, у ім толькі чатыры вучні: два хлопчыкі і дзве дзяўчынкі, але толькі трое нас вывучае беларускую мову. У тыдні маем тры ўрокі беларускай мовы. На ўроках часта чытаем „Ніву”. Для нас самая цікавая — „Зорка”, старонка для дзяцей. Мы чытаем вершы і казкі, рашаем загадкі і крыжаванкі. У мяне ёсць многа сяброўак, сярод іх вучаніца V класа, карэспандэнтка „Зоркі” **Анеля Гаўрылюк**. Я нядаўна пачала пісаць вершы. Дасылаю іх табе.

**Калі цёпла на двары**

Калі засвяціла сонца,
Весела стала божай кароўцы.
Жаваранкі спяваюць,
Бо добра сябе адчуваюць.
Буслы прыляцелі,
Але не ўсіх жаб паелі,
Таму што тыя хітрыя былі
І ад буслоў у ваду ўцяклі.
Трава зазелянела,
Нашы лугі рассвятліла.
Калі цёпла на двары,
Гудуць пчолы ўгары.
Пралескі зацвілі,
Светла стала ў бары.
Вясной на ўсім свеце
Ўсім радасна жывецца.

# Падзяка

Арганізатары IV Сустрэч „Зоркі”, якія 1–2 чэрвеня 1996 г. праходзілі ў Бельску-Падляшскім, сардэчна дзякуюць за дапамогу:

— сп. **Яўгену Мірановічу**, галоўнаму рэдактару „Нівы”,
— сп. сп. **Сяргею і Марку Нічыпарукам** з Грабаўца,
— сп. **Васілю Ляшчынскаму**, дырэктару Пачатковай школы № 3 у Бельску-Падляшскім,
— бацькам дзетак з класа V „е” ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім,
— сп. **Алесю Палескаму** з Францыі,
— сп. **Алегу Кабзару**,
— сп. **Грышу Зінкевічу**.

Арганізатары IV Сустрэч „Зоркі”:

**Ганна Кандрацюк,**
**Валянціна Бабулевіч,**
**Дарафей Фёнік**

# З развалін у харомы

Ці ёсць на Беласточчыне другая такая школа як у Кляшчэлях, не ведаю. Я не бачыў. Савецкая казарма саракавых гадоў, адзін будынак яшчэ старэйшы — з 1933 года — і адзін пабудаваны ў шасцідзесятых, правізорны. Аблезла-шэрыя сцены, выбітыя гадамі і тысячамі дзіцячых ног драўляныя ступенькі сходаў, панурыя калідоры і кабінеты. Пасярэдзіне пясчанага пляца стаіць збітая з дошак прыбіральня. Чэрвеньская спякота кансервуе букет смуроду.

Зімою таксама не лепш.

— Калі тэмпература падае ніжэй мінус дзесяці, — кажа дырэктар **Юры Якубоўскі**, — кафляныя печы можна накаліць да чырвані, а пад вокнамі ўсё роўна будзе мароз.

У самым цэнтры горада, побач Успенскай царквы і непадалёк сядзібы гмінных улад — амаль гатовая новая школа. Папраўдзе, дык гэта спачатку меўся быць гмінны асяродак культуры, але ўлічваючы патрэбы мясцовасці, у 1991 годзе пачалася адаптацыя будынка на школу. Размясціліся ў ёй дванаццаць дыдактычных кабінетаў, глядзельная зала, сталоўка. Будзе таксама памяшканне для дзіцячага садка, побач стане гімнастычная зала. Але гэта крыху пазней.

Пакуль што, каб закончыць сам школьны будынак, не хапае 2 мільярдаў старых злотых. У тым, 400 мільёнаў даўгу бельскаму „Унібуду" за ўжо выкананую працу. Ці адчыняць школу ў верасні?

— Мусім, — адказвае сакратар Управы горада і гміны **Аліна Снарская**, — у нас няма іншага выйсця. Ужо два разы прымяркоўваліся мы пераводзіць школу ў новы будынак. Лічым, што трэці раз будзе ўдачны.

А тады трэба будзе брацца і за гімнастычную залу. Як эфект поўнага энтузіязму прывітання тут у час выбарчай кампаніі Кваснеўскага, Галоўная управа фізічнай культуры і спорту дэкларавала на гэтую мэту 3 мільяры. Але з умовай, што гміна дакладзе яшчэ два з паловай. Адкуль іх узяць, пачнуць у Кляшчэлях думаць, калі дзеткі пакінуць старыя развaліны.



*Дырэктар Юры Якубоўскі: „Кафляныя печы можна накаліць да чырвані, але калі мінус дзесяць, пад вокнамі ўсё роўна будзе мароз".*

* * *

Колькасць дзяцей у кляшчэлеўскай школе ад 1 верасня пабольшыцца з 234 да 274. Не дзякуючы натуральнаму прыросту, а таму, што ліквідуюць школу ў Палічнай.

З 29 да 48 асоб узрасце таксама лік тых, якія вывучаюць беларускую мову.

— Апошнімі гадамі наглядаецца большае зацікаўленне дзяцей гэтай мовай, — гаворыць дырэктар. — Мы спрыяем гэтаму працэсу. У наступным годзе пачне ў нас працу настаўніца беларускай мовы з Палічнай і навучанне гэтага прадмета будзе яе асноўным абавязкам. Цяпер беларускую мову выкладае пані Валянціна Шмукста, якая закончыла рускую філалогію, але давучвалася, між іншым, на спецыяльных курсах у Менску.

— У нас, хаця дзетак нямнога, — кажа настаўніца, — але беларускую мову вывучаюць вельмі актыўна. У прадметных конкурсах прымаем удзел, таксама і дэкламатарскіх, песенных. Прывозім узнагароды, вылучэнні. Напрыклад, у гэтым годзе наш малады калектыў „Лясныя скамарохі", хаця існуе ўсяго першы год, узяў трэцяе месца ў цэнтральным аглядзе беларускай песні для школьнікаў. Рыхтавала іх настаўніца фізікі Яўгенія Такаюк, бо так то ёсць, што адны могуць спяваць, а іншыя, на жаль, не.



*„Лясныя скамарохі" ў кабінеце дырэктара (III месца ў сёлетнім аглядзе беларускай песні для школьнікаў).*

* * *

Пачаліся канікулы. Для настаўнікаў і вучняў, ды іх бацькоў асноўнае пытанне: дзе будзе школа ў верасні. Хаця ў такіх умовах стараліся сарганізавацца як найлепш, працавала святліца і сталоўка, у якой абедалі 200 школьнікаў (у тым ліку 40 найбяднейшых за грошы Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі), ніхто не хацеў бы вярнуцца на старое месца. Нават калі давядзецца папрацаваць пры ўпарадкаванні новай школы ці дапамагаць у пераходзе туды.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота аўтара*



*Валянціна Шмукста: „У нас нямнога дзетак вывучае беларускую мову, затое вельмі актыўна".*

# У бельскай „тройцы"

Апусцелі школьныя сцены, у калідорах, дзе на перапынках зазвычай чуваць столькі гоману і смеху, стала ціха. Дзеці ў школьным узросце пасля цяжкой працы ўжо адпачываюць.

У Пачатковай школе н-р 3 у Бельску — жыватворнай крыніцы для Бельскага беларускага ліцэя — у мінулым навучальным годзе адбылася вялікая падзея: адкрыццё доўгачаканай і доўгабудаванай паводле суперсучасных крытэрыяў спартыўнай залы. Такіх гімнастычных залаў у нашым ваяводстве пакуль што няшмат. Велічыня залы — 42 x 21 м. Аднaчасова могуць гуляць у ёй шэсць баскетбольных каманд.

Разам з пабудовай гімнастычнай залы прыбыло школе і крыху дадатковых памяшканняў. Гэта перш за ўсё кабінет беларускай мовы, у якім у мінулым навучальным годзе вяліся ўжо заняткі па роднай мове. Ад II да VIII класаў яна выкладаецца 96 гадзін у тыдзень.

Кабінет выглядае вельмі маляўніча. Гэта нібы-музейчык народнага мастацтва. Бачым тут старыя ручнікі з цудоўнай вышыўкай, бадай выцягнутыя дзецьмі з бабуліных куфраў, ёсць таксама і старыя прылады, якімі сёння ўжо мала хто карыстаецца: маслабойка, малая капанька, старая лямпа і інш. На сценах — літаратурныя фотамантажы.

Побач з беларускім кабінетам памясціліся таксама мастацкі кабінет і кабінет англійскай мовы, які мае быць у будучыні камп'ютэрнай лабараторыяй.

Але гэта яшчэ не ўсё. Прыбыў кабінет для настаўнікаў, а ля залы шэсць раздзявальняў, душ і тры склады для спартыўных прылад. Ёсць таксама памяшканне для „сілоўні" (4,5 x 5 м), яно яшчэ не зусім гатовае, але будзе, як толькі школа прыдбае адпаведнае абсталяванне. Знайшлося тут месца і для кабінета рэстаўратара школьнага будынка, ёсць кабінецік для адпачынку інструктараў і суддзяў спартыўных мерапрыемстваў.

Ці будуць працягвацца нейкія працы ў школе цяпер, летам, калі будаўнікі змогуць спакойна працаваць, не перашкаджаючы дзецям у вучобе, а дзеці таксама не будуць перашкаджаць ім?

Дырэктар бельскай „тройкі" Васіль Ляшчынскі паінфармаваў нас, што найважнейшай працай будзе пабудова новай агароджы школьнага пляца, на якую Бельская гарадская ўправа выдзеліла 500 млн. злотых.

Другой важнай інвестыцыяй будзе капітальны рамонт вялікага кухоннага комплекса ў школе, на гэта школа атрымала (таксама ад гарадской управы) 250 млн. злотых.

А яшчэ ж у некаторых класах і на калідорах давядзецца пачысціць і аднавіць падлогу. Тут ужо пра грошы мы пастараліся ў спонсараў, кажа дырэктар, далажыў таксама бацькоўскі савет і ў суме маем на гэта 50 млн. злотых.

Якія мерапрыемствы адбываюцца ў новай спартыўнай зале?

Нядаўна адбыўся турнір сеніёраў па валейболу. Сабраліся спартсмены з цэлага макрарэгіёна. Узяла ў ім удзел і бельская каманда „Тур", праўда, без асаблівых вынікаў, заўважае дырэктар.

1 чэрвеня ў нас праводзіўся танцавальны турнір, які арганізаваў Бельскі дом культуры. Былі тут пары не толькі з Бельска, але і з Беластока, Ольштына, Астралэнкі ды іншых гарадоў. Усё наладжваў інструктар з Беластока Марэк Аношка, які вядзе заняткі па бальных танцах у Бельскім доме культуры.

Ці будуць адбывацца ў гіманастычнай зале бельскай „тройкі" нейкія мерапрыемствы летам?

Ужо цяпер вядома, што спартсмены ў жніўні арганізуюць заняткі для 60 чалавек — для вучняў, якія дасягнулі ў спорце найлепшых вынікаў. У асноўным бярэцца пад увагу лёгкая атлетыка і баскетбол, але футбол і гандбол — таксама.

Але напэўна будуць адбывацца і іншыя мерапрыемствы.

Ясна адно: новая спартыўная зала ў Пачатковай школе н-р 3 не толькі прынесла карысць вучням гэтай школы і ліцэя, але і падняла на вышэйшую ступень ранг усяго горада Бельска.



*У новым кабінеце беларускай мовы.*

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

# Падумаць перад іконай

**З дырэктарам Дзяржаўнага хора Радыё і Тэлебачання Беларусі Віктарам РОЎДАМ, членам журы Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, гутарыць Аляксандр Вярбіцкі.**

***— Як выглядае музычнае жыццё ў Беларусі?***

— Мне блізкая харавая справа, так як я ўзначальваю рух харавых калектываў, харавой музыкі. Падымаецца паволі. Быў малы спад, маленькае таптанне ў месцы...

***— Чым было гэта выклікана?***

— Палітычнымі справамі. Цяпер сітуацыя стабілізавалася. Мы, як працавалі ў Кансерваторыі, так і працуем, як выпускалі студэнтаў, так і выпускаем. Усе яны працуюць: хто ў дзіцячых, хто ў самадзейных, хто ў прафесіянальных хорах. Кожны год мы выпускаем 13—15 чалавек. Многія пачынаюць, а потым глядзіш: жаніўся, ці замуж выйшла...

***— Астаюцца ў Беларусі?***

— Не ўсе, але галоўным чынам у Мінску. Маем распісанне: рэспубліка просіць даць дырыжораў, але, на жаль, яны не едуць. Яны ўжо ўспелі абзавесціся сем'ямі, дзеці ўжо ў іх паявіліся. Усё-такі мы стараемся, каб яны, пражываючы ў Мінску, працавалі ў нейкай ступені і за межамі горада, хаця б у ваколіцы.

***— Ну, а ў Мінску?***

— Тут працуе Беларуская акадэмія музыкі; так называецца цяпер, як перайменавалі; быццам бы павысілі. Я быў супраць гэтага, бо Кансерваторыя гэта кансервацыя ўсяго найлепшага, што было ў гісторыі музыкі. Масква ці Пецярбург не пераймяноўваюць сваіх кансерваторыяў. Хаця цяпер такая мода; вось школа становіцца каледжам напрыклад. Ды справа не ў назве, справа ў сутнасці..

***— Кансерваторыя гэта, так сказаць, сам вяршок. А адкуль Кансерваторыя набірае навучэнцаў?***

— З музычных вучылішч; іх у рэспубліцы адзінаццаць: у абласных і другіх больших гарадах.

***— А як з такімі ўстановамі як напр. філармонія?***

— Яны таксама плодзяцца. Апрача Мінска маем філармоніі ў Гомелі, Магілёве, Гродне. Калі адкрываюць, значыць — могуць жыць.

***— А оперны тэатр — адзін?***

— Так. Адзін, але ён раздзелены на два калектывы: гэта балет, які аддзяліўся ад оперы, хаця ён працуе ў памяшчэннях опернага тэатра. А гэта таму, што ён мае вялікія поспехі. Вось нядаўна выдатны яго танцор Валянцін Елізараў атрымаў у Парыжы залатую статуэтку, як найлепшы ў гэтым годзе ў свеце.

***— Які там рэпертуар ставіцца?***

— Розны: ставяцца і спектаклі беларускіх кампазітараў, і балеты беларускіх кампазітараў: Мдзівані, Семяняқі, Картэса, Багатырова. Таксама рускі і заходні рэпертуар.

***— Як маюцца справы з самай блізкай Вам харавой музыкай?***

— Цяпер такі бум: усе спяваюць — разумеючы і не разумеючы. Таму што і былыя камсамольцы спяваюць, і былыя піянеры спяваюць, і члены партыі спяваюць. Ды яны не клапоцяцца пра свой спеў. Яны спяваюць чысценька, акуратненька, ноты выспеўваюць правільна, словы выгаворваюць; не разумеючы... Але каб пастаяць, падумаць перад іконай, панюхаць пах ладану, акурыцца дымам свечкі і пасля толькі ісці і спяваць духоўную музыку. Вось калі спявак выходзіць спяваць пра любоў, калі ён не любіць — ён тады пра любоў спяваць не павінен, бо ён гэта робіць на паказ, не ад душы. Так сама і з духоўнай музыкай. Яшчэ цяжка гаварыць, што адрадзілася яна; у нас яшчэ бум, але цвёрдага адраджэння царкоўнай музыкі ўжо не абысці. У царкву ідуць усе спяваць, і каталікі прыходзяць спяваць, і другія прыходзяць спяваць. Бо не спяваць Рахманінава „Ўсяночнай", Чайкоўскага „Літургіі", не спяваць твораў Часнакова — класічнага царкоўнага кампазітара ці другіх, гэта было б грэшна. Вось напрыклад прафесар Аляксандр Свешнікаў, мой настаўнік, патрыярх харавой музыкі ў Расіі, у савецкі перыяд упершыню дабіўся выканання рахманінаўскай „Ўсяночнай", але без права прадаваць пласцінкі ў СССР; толькі на экспарт. А пасля, па знаёмству, распісвалі на плёнкі і пайшло... А цяпер спяваюць і прыхадскія царкоўныя, і самадзейныя, і студэнцкія, і прафесіянальныя хоры.

***— Ці ў вас праводзяцца такія конкурсы, як вось у нас, у Гайнаўцы?***

— Так, паяўляюцца. На Беларусі праводзіцца міжнародны конкурс „Магутны Божа", ён адбываецца кожны год пакуль, у Магілёве. Бываюць і ў Мінску, але яны не такія прэстыжныя і хутчэй гэта фестывалі, бо з конкурсамі справа складаная; і ўзровень іх ніжэйшы. А вось на „Магутны Божа" прыязджаюць добрыя харавыя калектывы.

***— Ці запрашаеце выканаўцаў з Польшчы?***

— Запрашаем, але прыязджаюць каталіцкія.

***— А як трымаецца народная музыка?***

— Яна не гасне. Асабліва фальклорныя ансамблі, гэтыя *бабушкі*, і моладзь: іх вельмі, вельмі многа. Вось нашы выпускнікі, якія закончылі нашу кансерваторыю як дырыжоры класічнай музыкі, яны з задавальненнем працуюць з народнымі харамі. Адзін з іх гэта Міхась Дрынеўскі, які вось прыязджае ў Беласток на конкурсы беларускай песні вызначаць майстэрства яе ўдзельнікаў, закончыў нашу кансерваторыю і ўзначальвае хор імя Цітовіча. Ну, тут трэба мець тое чуццё, каб пайсці ў народ. У свой час Рыгор Шырма, з якім я знаёмы з дзяцінства...



*Прафесар Віктар Роўда ў Гайнаўцы.*
Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

***— Ён, можна сказаць, наш зямляк...***

— Так, ён з Пружанаў. Ён увесь час чакаў, калі гэтыя ансамблі танца выйдуць з-пад яго ведамства: ён хацеў выдзеліць свой хор асобна, а ансамблі танца набок. І іх раздзялілі. Але яны жывуць: так ансамблі народнага танца, як і харавыя фальклорныя калектывы.

***— За якія сродкі яны жывуць?***

— З бюджэту, яны атрымоўваюць зарплату. Дзяржава падтрымоўвае культуру. Ну, гэтыя зарплаты ўбогія. Вось у мяне, а я — народны артыст СССР і БССР, і акадэмікам ужо стаў, і прафесар, зарплата, як дырыжора, убогая. Ну, зразумела, часы цяжкія.

***— А што можаце сказаць пра эстрадную музыку?***

— Эстрадную музыку дзяржава падтрымоўвае ў большай ступені. У Віцебску праходзіць „Славянскі базар", у Магілёве паявіўся фестываль „Шлягер", які дзяржава таксама ўзяла пад сваю апеку.

***— Ці выконваецца там беларуская музыка?***

— Так; спяваюць „Песняры", і другія, таксама і ансамблі, якія толькі па-беларуску спяваюць.

***— Наканец папрашу Вас сказаць, які быў Ваш шлях у музыку.***

— Я нарадзіўся ў сям'і свяшчэнніка, пры царкве, у Смаргоні. Закончыў Духоўную праваслаўную семінарыю ў Вільні. А пасля, у пасляваенныя ліхалецце, жыў я ў Вільні, закончыў кансерваторыю, і медыцынскія студыі. Называлі мяне *pastor, doctor et artist.* Пасля аспірантура ў Маскве ў Свешнікава, і праца ў Свешнікава. Ну і 1-га верасня споўніцца сорак гадоў, як я ўжо на Беларусі. А нядаўна адсвяткаваў свой юбілей — 75-годдзе.

***— Віншую і дзякую за размову.***

# Радзіма — Родзіна

**Частка LI**

У выказваннях Янкі Міхалюка заўсёды дамінавала ідэя талерантнасці паміж рэлігіямі ды ідэалогіямі. Мой размоўца лічыў, што нацыянальнае пачуццё мае прыярытэтнае значэнне ў адносінах да рэлігійных, ідэйных ці партыйных пачуццяў:

„Я вельмі добра памятаю, як гэта было ў нас на радзіме. То ж было так, што ўсе праваслаўныя, каталікі і баптысты паміж сабою або ненавідзеліся, або не любіліся і кожны лічыў, што яго рэлігія найлепшая і што яна толькі мілая Богу. От я вам прывяду такі прыклад. Неяк так здарылася, што ў нас мясцовы ксёндз завёў вучняў-католікаў у царкву, бо хацеў ім паказаць, як моцна адрозніваецца будова царквы ад касцёла. Ну, у часе гэтай экскурсіі адзін з вучняў узяў і перажагнаўся. То вы ведаеце, што гэты ксёндз падбег да вучня, схваціў яго за вуха, ды так крутануў, што вуха надарваў і прытым крыкнуў: „Co się durniu żegnasz. W tej świątyni nie ma Boga. Bóg jest tylko w katolickim kościele". Вось бачыце, як выглядала таленрацыя паміж паасобнымі рэлігіямі. Ну, я яшчэ магу сказаць, што калі б, скажам, праваслаўны пайшоў на багаслужбу ў касцёл, ці ў дом малітвы да баптыстаў, ці ў жыдоўскую бажніцу, то ўсе яго асудзілі б, а калі б зрабіў гэта католік, то яго ўвогуле заклявалі б. Так значыцца, усе глядзелі на справу, што толькі мая рэлігія добрая, а ўсе іншыя дрэнныя. Праўда, на Беларусі то, дзякаваць Богу, не рэзаліся на рэлігійным грунце, не рэзаліся так як у Лібане ці Ірландыі, але праявы рэлігійнай нянавісці былі.

І вось такую свядомасць мы прынеслі і на захад. Было мне праваслаўнаму неяк дзіка ісці ў вуніяцкую царкву. Я думаю, што штосьць такое мог бы сказаць і кожны беларус-католік і беларус-баптыст. Так што мы ўсе доўга мусілі весці змаганне з самім сабою. Ну і што нам дапамагло ў гэтай справе? Любоў да радзімы! Бачыце, у чужой краіне то гэта любоў успрымаецца зусім па-другому, чым тады, калі жывеш на роднай зямлі. Мы зразумелі адно: калі будзем сварыцца паміж сабою, калі будзем ісці на нажы, то згасім памалу ў сваіх сэрцах усякую прывязанасць да Беларусі. От таму і пастанавілі не сварыцца ў рэлігійных справах. Вы ж бачыце, што ў тутэйшую вуніяцкую царкву прыходзяць розныя людзі, значыцца, рознай веры. Гэтыя ж самыя людзі ідуць у праваслаўную царкву. Найважнейшае тое, што ў нас адзін Бог, а святыні могуць быць розныя. І так у нас ёсць, і дзякуючы гэтаму ўдалося нам захаваць, а ў істоце не захаваць, але стварыць малую радзіму. Калі б пайшлі мы іншым шляхам, шляхам грызні, то згубілі б усё.

Са сказанага не вынікае, што ў нас то ўсё ўкладаецца ідэальна. Не. І ў нас ёсць людзі, якія ахвотна напусцілі б адных на другіх. І трэба сказаць, што робяць гэта сістэматычна. Цкуюць адных на другіх. Ну, але вядома, што ў кожнай грамадзе знойдуцца такія людзі, якім хацелася б, каб беларусы скакалі сабе з пазурамі да вачэй і горла. Я не буду тут называць іх прозвішчаў і не буду гаварыць, да якой рэлігіі яны належаць. Зрэшты, вы самі ведаеце, бо часта ў нас бывае і чытаеце тое ўсё, што тут пішацца. Зрэшты, што гаварыць пра праявы змагання паміж рэлігіямі. Вы ж ведаеце, што робіцца ўнутры эміграцыйнае праваслаўнае царквы. Ведаеце, якая ідзе грызня, колькі выліваецца памыяў і балота. Вось у гэтым то і ўся наша бяда. Бо самі ведаеце, як такая ўнутраная барацьба разбівае беларусаў і як нішчыць іх еднасць, і як робіць ворагаў з найлепшых прыяцеляў. На шчасце ўсе тыя беларусы, якія групуюцца вакол Скарынінскае бібліяткі, то наогул не бяруць удзелу ў гэтых самазабойчых акцыях. Ну і так, самі бачыце, што можам, тое тут робім і не глядзімо хто якое веры. Найважнейшае, што ў нас адзін Бог і адна радзіма Беларусь. Вось для іх і стараемся тут жыць і працаваць".

**Алесь БАРСКІ**

Васіль Сакоўскі

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

*(працяг; пачатак у 18 н-ры)*

Чытаючы польскую і савецкую гісторыю, літаратуру, прэсу, складваецца ўражанне, што ў часы царскай Расіі для рабочага і мужыка адзінымі наяўнымі жыццёвымі атрыбутамі былі бруд, смурод і ўбоства адно. А ўжо пра нейкія там кар'еры і гутаркі быць не магло.

Змяняюцца, аднак, дзяржаўная палітыка і характар дзяржаў, змяняюцца таксама густы-погляды іх жыхароў. Цяпер як бы ўжо не да канца верыцца таму, што найбольшым клопатам былой народнай і сучаснай ужо капіталістычнай польскіх, і тым больш савецкай, улад было і ёсць народнае працвітанне, а былых царскіх улад — дакладнае і сістэматычнае атручванне жыцця простаму народу, кіданне яму калод пад босыя ногі, каб ён што і руш зарываў у зямлю сваім брудным носам.

Праўда была крышку іншай; яна, як і заўсёды, любіць трымацца сярэдзіны. Значыць, і ў народнай, і ў цяперашняй ужо капіталістычнай Польшчы, і тым больш у Савецкім Саюзе і ў цяперашняй Беларусі і Расіі працоўны народ так ужо магутна не працвітаў і не працвітае, а ў царскай Расіі не толькі гібеў і не кожны гібеў. І за апошніх Раманавых многім рабацягам удавалася зрабіць кар'еры. Нашым тутэйшым мужыкам, як бачыце, таксама.

Прыведзеныя мною прыклады — гэта жывыя факты з адной толькі невялікай, маёй роднай вёскі. У гэтыя факты мне, выхаванцу народнай і жыхару цяперашняй Польшчы, аж паверыць цяжка, але факты, як кажуць, гэта ўпартая рэч.

Не канец, аднак, гэтым прыкладам. Апрача дзвюх, бясспрэчна бліскучых інтэлігенцкіх кар'ер (палкоўнікаў царскай арміі Парфенція Амельянюка і Ігната Нікалаюка, пра якіх я ўжо пісаў у „Ніве") з маёй вёскі Піліпкі Пасынскага прыхода і валасці ў той даўні царскі час выйшла значна больш інтэлігенцыі. Былі святары, былі настаўнікі, былі афіцэры, былі пісары, былі валасныя і іншыя чыноўнікі. І ўсё гэта паявілася толькі на працягу больш-менш аднаго пакалення. Таго пакалення, якое жыло на пераломе XIX і XX стагоддзяў. Гэта быў параўнальна добры час.

За панавання двух апошніх Раманавых, Аляксандра III і Мікалая II, хаця яны і не былі найразумнейшымі царамі, але якраз тады ў нашай мясцовасці наступалі даволі хуткія і некаторыя цікавыя змены.

У вельмі добрым стане захавалі яны для нас Белавежскую пушчу. Стан яе фауны і флоры не тое што быў утрыманы на ранейшым узроўні, але быў яшчэ моцна папраўлены, удасканалены.

Былі праведзены добрыя бітыя дарогі і пракладзена чыгунка. І хоць усё гэта рабілася не з думкай аб паляпшэнні быту нашага народа, але ўсё ж такі карысталіся гэтым і нашы продкі і мы дасюль карыстаемся.

Масава аднаўляліся старыя і будаваліся новыя цэрквы, манастыры і арганізаваліся новыя прыходы. Гэта яны спачатку спаўнялі ролю мясцовых цэнтраў культуры.

Паволі, але даволі пераканаўча пачала развівацца навука, асвета ў нас. І была гэта асвета не для выбраных, а ўжо для мас. Пасля першапачатковых складанасцей, звязаных у асноўным з адсутнасцю школьных будынкаў і адпаведных педагагічных кадраў, ужо на пачатку XX ст. і на гэтай дзялянцы было зроблена нямала. Да часоў бежанства ў 1915 годзе амаль у кожнай вёсцы былі пабудаваны школьныя будынкі і працавалі ў іх някепска падрыхтаваныя настаўнікі. Некаторыя з гэтых будынкаў і дасюль яшчэ стаяць асірацелыя. Не толькі ў нашых гарадах, але і вёсках адкрываліся, апрача пачатковых школ, таксама сярэднія школы, напрыклад, у нашай Трасцянцы.

Былі ўжо гатовыя планы ў Гродзенскага губернскага школьнага інспектара будаваць і адкрываць сярэднія школы і ў іншых нашых вёсках...

Вось дзе асноўная прычына таго, што паявілася ў нас столькі інтэлігенцыі, што так высока пачала цаніцца навука, пашана да кнігі. У гэтым сэнсе, бадай, найкарысней на ўсю Расію выглядала Гродзеншчына, а на ёй наша тэрыторыя...

Моцна крытыкуем цяпер гэтае школьніцтва, але ці маем рацыю? Ці так ужо моцна змянілася наша сучаснае школьніцтва ад тых даўніх царскіх часоў? Я б не сказаў гэтага. Пасля звышстагадовых эксперыментаў яно зноў апынулася або хутка апынецца ў зыходным пункце. І перабудавалі мы яго якраз на тагачасны царскі лад.

Чым жа наша сучаснае польскае школьніцтва не з'яўляецца касцельна-парафіяльным цяпер? Ці ж не вядучымі ў праграмна-выхаваўчай дзейнасці нашых школ з'яўляюцца, а калі яшчэ не, то напэўна хутка з'явяцца, рэлігія і хрысціянскія вартасці?

Тое ж самае і ў матэрыяльнай сферы. Ужо цяпер нашы школы без бацькоўскай фінансавай складчыны нармальна функцыянаваць не могуць. Нашы гераічныя педагогі яшчэ сяк-так трымаюцца, відаць, хутка і яны без бацькоўскай ссылкі ўтрымацца не змогуць. Магчыма, усё гэта будзе ўжо ўзаконена ў новай нашай канстытуцыі, бо штосьці доўга рыхтуюць яе.

Канешне ж, ніхто не прызнаецца, што за ўзор нашым эксперыментатарам паслужыла царскае школьніцтва, бо мы ж так любім быць арыгінальнымі і заходнімі...

Што было прычынай такога бурнага, на маю думку, развіцця ў канцы XIX і на пачатку XX стагоддзяў школьніцтва ў нас і як выглядала наша прыпушчанская мясцовасць у эканамічных, гаспадарскіх адносінах таксама ўжо я пісаў у „Ніве".

*(працяг будзе)*

# Як разбіць экалагічны агарод

У лесе апалае лісце, прывялыя сцяблíны і іншыя раслінныя рэшткі збіраюцца на зямлі. Тут іх перарабляюць беспазваночныя, мікраарганізмы і грыбы, і ўсё тое становіцца амаль аднароднай масай — перагноем, у якім знаходзяцца пажыўныя кампаненты, іх выкарыстоўваюць глебавыя арганізмы, а тыя зноў павязаны з дрэвамі і кустамі. Не інакш дзеецца ў экалагічным агародзе. Гаспадар збірае рэшткі раслін, захоўвае іх у спецыяльны спосаб, каб ператварылі іх беспазваночныя і мікраарганізмы. У выніку робіцца *кампост* — найлепшае натуральнае ўгнаенне.

### З чаго

У экалагічным вырошчванні абавязвае прынцып, што большасць матэрыялу, узятага на будову кампоставай *прызмы* бярэцца з агарода. Да раслінных рэштак дадаюцца кухонныя адпады і арганічныя ўгнаенні (касцявая і рыбная мука, птушыны памёт), а з мінеральных угнаенняў трэба дадаць кальцыевыя (вапна) — незалежна ў якой форме найменш 4-5 кг на 1 кубічны метр кампоставай масы, а таксама базальтавую і даламітную муку. У выпадку лёгкай, пясчанай глебы добра дадаць у кампост глеевых мінералаў (бентаміт, гліна, мада). У кампосце глеба павінна займаць каля 10 працэнтаў.

Ёсць шмат спосабаў будавання кампоставай прызмы. У малым агародзе найлепшы „бочкавы метад". Патрэбная для гэтага драўляная бочка з вынятым дном. Ставім яе ў выбраным месцы, ніз выкладваем слоем галінак і таўсцейшых сцяблін — гэта будзе дрэнажны слой. Той слой накрываем слоем агароднай зямлі, а пасля кладзем напераменна — рэшткі раслін, гной, глебу (з глебай змешваем мінеральныя дадаткі). Напоўненую бочку лёгка накрываем. Пасля даспявання кампосту яго высыпаем, падымаючы бочку ўверх.

### Даспяванне

На працягу некалькі дзён тэмпература ў прызме ўзрасце да 60-70°C, а бывае, што яшчэ і вышэй. Чым больш у кампосце жывёльнага гною, тым гарачэй у бочцы. Калі з прызмы пачне курыцца, трэба яе паліць вадою або дацiснуць — такім чынам паменшым доступ кіслароду (гэта затармозіць біяхімічныя працэсы і не дапусціць да загарання прызмы). У павышанай тэмпературы гіне шмат насення пустазелля і большасць вірусаў, бакцылы хвароб раслін (апрача *тытунёвай мазаікі*), жывёльныя шкоднікі (м.інш. *ніцені*). Не прападаюць, аднак, грыбы, і таму лепш у кампост не ўкладваць рэштак хворых раслін. Кампост даспявае наогул 9 месяцаў. Спелы кампост мае цёмна-карычневы колер, пахне свежаўзаранай глебай, мае кансістэнцыю торфу, не бярэцца да рук ды няма ў ім дажджавых чарвякоў.

### Калі

Кампост найлепш закладваць вясной альбо позняй восенню.

### Дзе

Найлепш у месцы засененым ад ветру, ценістым і не падмоклым. Карысным суседствам для прызмы будзе бяроза, чорная бузіна, арэшнік і вольха, а некарысным — прысутнасць паблізу іголкавых кустоў і дрэў.

### Прымяненне

Спелага кампосту нельга даваць зашмат. За тры гады правільнага ўгнойвання глеба павінна дасягнуць добрую біялагічную актыўнасць. Тады можам паменшыць дозы кампосту, але варта ім угнойваць агарод кожны сезон.

Спелым кампостам можам удабраць глебу ў кожную пару года. Рассыпаем яго на паверхні грунту і накрываем слоем глебы. У інспектах або агародчыках добра насыпаць спелы кампост у разоры на градах перад пасевам насення. Памідоры, капусныя і асабліва фруктовы дрэвы можам угнойваць „гнёздава", рассыпаючы кампост наўкол расліны.

### Спецыяльныя рэцэптуры: Кампост з лісця

Лісце з дрэў найлепш збіраць пасля зімы; развіваюцца на іх шматлікія віды грыбоў, неабходных у працэсе „кампаставання". Варта задбаць, каб у прызме апынулася цвёрдае лісце (бука, дуба, грушы) і мяккае (ліпы, яблыні, каштана, бярозы, арэшніка). На 1 кубаметр лісця дадаем каля 5 кг змолатага вапнавага ўгнаення і два вёдры кампоставай зямлі. Добра ўзяць яшчэ вядро гною. Усё гэта мяшаем і накрываем сеткай (ад ветру).

### Кампост для кіслотных зямель

Такі кампост адрозніваецца ад іншых тым, што бярэм на яго столькі ж раслінных рэштак, як торфу, пілавіння і кары. Не дадаем вапнавага ўгнаення. Надаецца такі торф пад азаліі, рададэндроны, высоку чарніцу („амерыканскую"), трускалкі і суніцы.

### Кампост пад памідоры

Рыхтуецца ён з жывёльнага гною (кароўнік, гнаёўка) і з незаражаных тытунёвай мазаікай сцяблін памідораў. Даспявае такі кампост некалькі тыдняў. Найлепшы ён напаўспелы, двухтыднёвы; каб яго атрымаць, некаторыя агароднікі сеюць памідоры на зялёнае ўгнаенне: зрэзваюць вырaслыя расліны на кампост, а той даюць для ўгнаення памідораў пасаджаных для пладанашэння.

**(апр. лук)**

# Экскурсія на Падляшша

Штораз папулярнейшым спосабам праводзення вольнага часу становяцца экскурсіі. Жыхары прамысловых і урбанізаваных краін Заходняй Еўропы кіруюць свае зацікаўленні ў бок г.зв. экатурызму, мэтай якога з'яўляецца азнаямленне з жыццём дзікай прыроды. Вось нядаўна, ад 11 да 19 мая адбываўся на Беласточчыне *Polish Bird Festival* — вялікая турысцкая імпрэза, у якой удзельнічала больш за 120 асоб з Вялікабрытаніі, Галандыі і Германіі. У гэтых краінах меншае колькасць птушак і іх любіцелі прыехалі пабачыць багацце нашай прыроды. Штодзённа раз'язджаліся яны па Падляшшы: ад Белавежскай пушчы і вадасховішча „Семяноўка" па багны над Бебжаю. Удзельнікі птушынага фестывалю малымі групамі наведалі дзесяткі месц, каб пабачыць птушак у іх прыродным асяроддзі; на працягу імпрэзы пазналі звыш двухсот гатункаў. Гэты лік сведчыць, што на Падляшшы ёсць каштоўнасці, істотныя для прыродазнаўчага турызму. Сур'ёзная трактоўка дзікай прыроды можа быць важным фактарам эканамічнага прагрэсу.

**Андрэй Гаўрылюк**

# ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**30 чэрвеня**

1950 г. — на венгерскіх універсітэтах ліквідаваны тэалагічныя факультэты.

1971 г. — касмічны карабель „Саюз-11” разгерметызаваўся і трох членаў экіпажа загінула.

1973 г. — у ЗША адменена абавязковы прызыў; армія стала прафесіянальнай.

1980 г. — ісландка Вігдзіс Фінбагадатыр, як першая жанчына ў Еўропе, стала прэзідэнтам дзяржавы.

**1 ліпеня**

1569 г. — зацверджанне Люблінскай уніі; пераход украінскіх зямель са складу Вялікага княства Літоўскага да Польшчы.

1646 г. — нар. Готфрыд Лейбніц, нямецкі філосаф.

1812 г. — аднаўленне Вялікага княства Літоўскага пад Напалеонам.

1831 г. — брытанец Джэймс Рос адкрыў магнетычны паўночны полюс Зямлі.

1890 г. — у Японіі адбыліся першыя парламенцкія выбары.

1903 г. — стартаваў першы *Tour de France*; трасу даўжынёю 2 428 км складалі 6 этапаў.

1908 г. — сігнал Морзэ SOS (... — ...) прызнаны афіцыйным сігналам трывогі.

1921 г. — у Шанхаі 13 дэлегатаў заснавалі Кампартыю Кітая.

1961 г. — нар. прынцэса Дыяна, княгіня Уэльса.

1974 г. — памёр Хуан Перон, аргенцінскі палітык.

**2 ліпеня**

1877 г. — нар. Герман Гесэ, нямецка-швейцарскі пісьменнік.

1918 г. — у Швейцарыі ўспыхнула эпідэмія грыпу, у выніку якой памерла к. 21 тыс. чалавек.

1935 г. — нар. Карлас Менем, аргенцінскі палітык.

1961 г. — памёр амерыканскі пісьменнік Эрнст Хэмінгуэй.

1964 г. — прэзідэнт ЗША Ліндан Джонсан падпісаў акт аб раўнапраўі рас, полаў ды этнічных і рэлігійных меншасцей.

1976 г. — аб'яднанне В'етнама.

1990 г. — у выніку панікі ў праходзе для пешаходаў у Мекцы загінула 1 426 пілігрымаў.

**3 ліпеня**

1883 г. — нар. Франц Кафка, аўстрыйскі пісьменнік.

**4 ліпеня**

1776 г. — 13 брытанскіх калоній на ўсходнім узбярэжжы Паўночнай Амерыкі аб'явілі незалежнасць і ўтварылі ЗША.

1900 г. — нар. Луіс Армстранг, амерыканскі джазмен.

1934 г. — памерла Марыя Кюры-Складоўская, польска-французская хімік, заснавальнік радыехіміі.

1943 г. — загінуў Уладзіслаў Сікорскі, польскі палітык.

**5 ліпеня**

1968 г. — савецкі фізік Андрэй Сахараў аб'явіў маніфест, у якім скрытыкаваў савецкія парадкі.

1995 г. — памёр паэт Барыс Сачанка.

**6 ліпеня**

1415 г. — смерць Яна Гуса, чэшскага рэфарматара-ерэтыка.

1905 г. — нар. паэт Пятро Глебка.

1923 г. — нар. Войцех Ярузэльскі, польскі палітык.

1972 г. — аўстрыйскі парламент увёў закон аб двухмоўных назвах мясцовасцей у Карынтыі, дзе пражывае славенская меншасць. Закон выклікаў пратэсты нямецкамоўных грамадзян Аўстрыі.

**(Ш)**

# ПАРНАСІК

### Пра мінулае

На вачах, на маіх, як жа многа
Усялякага было ў мой век.
Ды нялёгка слалася дарога,
Якую мусіць прайсці чалавек.

У дзіцячыя шчаслівыя годы
Усё новы, цікавы быў свет.
Кожны дзень быў мне іншы заўсёды
І да сёння, хаця я ўжо дзед.

У сяле стрэхі толькі з саломы,
А пры студнях усё жураўлі.
У полі вузенькія былі загоны,
Не хапала сялянам зямлі.

Дзеравяныя сохі, бароны,
Дзеравяныя колы ў вазоў
Жалезам абцягнуты толькі.
Конь ступаў непадкутай нагой.

Сярпом жалі, касою не кожны,
Малацілі цапамі наўкол.
Чорны хлеб пяклі і набожна
Яго клалі на мужыцкі стол.

Палатно для сябе самі ткалі
Ды бялілі яго на траве.
Бабы шылі потым адзенне.
Усё было на іх галаве.

Усё прайшло. Столькі год праляцела,
Працякло ў рэках мноства вады.
А мне ўсё яшчэ так хочацца,
Мінулага ўспамінаць сляды.

**„Улас”**

### Лёс

Лёс!
Ён без калёс,
Намі кіруе,
Часта зазлуе.
Кожнага чалавека лёс
Па рознаму панёс.
Няма сілы ад яго ўцячы,
Ён знойдзе цябе на пячы.
Не схаваешся на моры, ў пячоры,
Яму непатрэбны калідоры.
У людзях разбіраецца,
Відаць, гэта яму падабаецца.
Лёс чалавека —
Тэма ад прадвекаў.
Ніхто ў ім не грамацей,
Нават вучоны і чарадзей.
І дзіўна: людзям дрэнным,
Жулікам урэдным,
Лёс спрыяе, як вартаўнік,
Хаця ён не жартаўнік.
А людзям сумленным, набожным,
Вясёлым, адданым, нязлосным
Лёс сплятае фіглі
Так, каб жыццё ім абрыдла.
Часта жывуць у горы,
Якога поўнае мора.
То скалечыцца, або загіне ў выпадку –
Сустракаем на штодзённым парадку.
Лёс іх незайздросны,
Кашмарны і злосны.
Хто нам можа лёс змяніць
І іншае жыццё падарыць?
Бог усемагутны, Уладыка,
Цар неба, зямлі і зорак без ліку!
Ён можа нашу душу адкрыць.
Варта нам гэту вандроўку адбыць.
Да Бога
Наша дарога.

**Мікалай Панфілюк**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову Музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4628. Мікалай Нікалаюк (Гайнаўка) | — 29,56 зл. |
| 4629. Канстанцін Лукашэвіч (Беласток) | — 10,00 зл. |
| 4630. Міхал Дулько (Белавежа) | — 10,00 зл. |
| 4631. Нікіфар Бурачык (Чыжыкі) | — 5,00 зл. |
| 4632. Уладзімір Асіпюк (Чыжыкі) | — 5,00 зл. |
| 4633. Уладзімір Кіцаль (Чыжыкі) | — 1,40 зл. |
| 4634. Уладзіслаў Нічыпарук (Чыжыкі) | — 3,60 зл. |
| 4635. Вольга Рыгаровіч (Гайнаўка) | — 20,00 зл. |
| 4636. Секцыя сенiёраў пры Гарадскім праўленні БГКТ у Беластоку | — 51,00 зл. |
| 4637. Канстанцін Майсеня (Гайнаўка) | — 20,00 зл. |

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прысніўся мне доўгі, каляровы сон, у якім былі нейкія старыя пабудовы, дамы — быццам новыя, але ж са старых бярвён, сівых, чорных, але цэлых. Гэтага фрагмента сну добра не памятаю. А пасля нейкі чалавек даў мне чырвоную ружу — разам з карэннем. Я панесла яе і пасадзіла пасярод разлеглага газона, пароснага прыгожай, роўна падстрыжанай, смарагдава-зялёнай травой. Ружа была крамяная, доўгая, роўная, з адной буйной, распушчанай кветкай. **Мірка**

Што гэта абазначае, калі сняцца пацукі? Мяне ўчора яны праследавалі ўсю ноч. Былі вялізныя, скакалі на мяне. Я вельмі баялася. Не магу сказаць, дзе гэта было — у пограбе ці ў хаце. **Анна**

Мірка! Твой сон добры. Тыя цікавыя будынкі, якія табе сніліся, абазначаюць перамену на лепшае. Мо з нечага старога вынікне для цябе нешта зусім новае, карыснае і радаснае. Пацвярджае гэта і тая прыгожая чырвоная ружа, якую даў табе нейкі чалавек. Ружа была з каранямі і ты яе пасадзіла сярод свежай зялёнай травы. Паколькі ружа, тым больш такая цудоўная, можа абазначаць толькі радасць, а ты ж яе яшчэ пасадзіла, то ёсць надзея (зялёная трава), што радасць закараніцца ў тваім сэрцы надоўга. Можа гэта быць звязана з нейкім мужчынам.

А цябе, Анна, не магу суцешыць добрай навінай. Пацукі, якія цябе праследавалі, абазначаюць, што ты маеш шмат ворагаў, ад якіх табе вельмі цяжка будзе адчапіцца. Даруй мне, старому.

**Астрон**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. „крок” зайца, жабы, вераб'я, 8. дзяржава ў Персідскім заліве, 9. вайсковы чын, 10. хімічны элемент Cr, 11. крылаты конь паэтаў, 13. любіцель, 15. шахматны чэмпіён свету, 16. салёная вада для засолкі, 20. прадмет, які прыносіць шчасце, 22. амерыканскі балетмайстар, сын грузінскага кампазітара Мелітона Баланчывадзе, 23. порт у Албаніі, 27. водны шлях для бяспечнага плавання суднаў, 29. чорна-белая зладзейка, 30. возера ў Беларусі, 31. выраб з рэдкага цеста, 32. мястэчка недалёка Гродна, 33. стручковая расліна, 34. пярэдняя частка галавы.

**Вертыкальна:** 1. прозвішча беларускіх магнатаў 15—18 ст.ст., 2. белая пажыўная вадкасць, 4. месца сталінскіх расстрэлаў жыхароў Мінска, 5. дакучлівае насякомае, 6. савецкая назва расейскага горада Вятка, 7. шкілет галавы, 12. засоленая глеба, 14. хімічны элемент Mo, 16. жывё ў вадзе, 17. асноўная прыправа да ежы, 18. гранічная рака між Расеяй і Кітаем, 19. лячэбная прыправа з моцным пахам, 21. жаночае імя, 24. навальніца, 25. узор, стандарт для параўнання, 26. складаецца з бітваў, перамог і паражэнняў, 27. лоўкі прыём, хітрасць, 28. сталіца Марока. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 19 н-ра:**

**Гарызантальна:** ясакар, Клінтан, Італія, палігон, апарат, афронт, рамазан, папера, Віцебск, Канада.

**Вертыкальна:** скупка, Гітлер, ятаган, Яніна, Адана, Афіна, памяць, разьба, туніка, фраза, опера, трава.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Байко** з Белавежы і **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх.






**„Niwa”**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 421-033.
Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1996 r. upływa 5 września 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка




*Мал. Леаніда РАЗЛАДАВА*

## З нашага жыцця

— Бачу, Кася, ты цяпер стала нейкая таўставатая, ну зусім як твая свякроў, — кажа суседка. — А дзеўкай была ты як нітка.

— Свякрусе ж ва ўсім нявестка павінна старацца дараўнаць! — смяецца Кася.

* * *

— Я лічу, што ўсе твае дзеці нагулялa ты з іншымі, і ніякія яны мне не ўнукі! — лае нявестку свякруха.

— Ну, калі вы лічыце, што ваш сын няздольны нават стаць бацькам...

* * *

— Што гэта такое? — здзіўляецца Юра. — Калі ты ідзеш па падворку, то каты і сабакі або сядзяць, або да цябе ідуць, а ад мяне ўцякаюць.

— Яны думаюць і бачаць. А я, дурная, мушу з табою лічыцца.

* * *

— Навошта тыя мухі ды камары! — злуецца маленькі Юзік. — Бзыняць яны толькі ды кусаюцца.

— І ты бзыніш і дакучаеш, а ніхто цябе не ганяе, — смяецца бабуля.

* * *

— Чаму ты, тата, гуляць са мною не хочаш? — ные чатырохгадовы Лукаш.

— У мяне, сыночак, свая гульня. Гной трэба з хлява выкідаць, везці ў поле, растрасаць... Можа, прыйдзеш гуляць да мяне?

— Не-а, не хачу. Твая гульня нецікавая і брыдка пахне.

* * *

— Я так чакаў свой дзень нараджэння, і нічога цікавага, — уздыхае Мацейка. — Нават не падрос, хоць хадзіў па дажджы. Няпраўду ты мне, бабуся, казала...

**АЎРОРА**

## Эпіграмы

**П'яніцу**

Табе і мора па калена,
І акіян — ніжэй за пуп.
Струхнееш, мокрае палена!
Згніеш, нібы ў балоце слуп!

**Палітыку**

Залез на страху — дык не охай, не ахай,
А годна яе рамантуй,
Бо могуць сказаць неўзабаве:
„Злазь з даху
І гонту, няўмека не псуй".

**Іван КАРЭНДА**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

У рэстаране пры чарцы сустрэліся два сябры і прасядзелі там аж да закрыцця забягалаўкі. Гутарылася ім прыемна і набралі яны яшчэ большай ахвоты на выпіўку. Адзін з іх кажа:

— Запрашаю да мяне дадому.

— Не выпадае: твае жонка з цешчай будуць крывіцца...

— Не бяры да галавы — усё будзе добра.

Дома, ужо на першы званок жонка з цешчай адкрываюць дзверы, ветліва запрашаюць да стала і хуценька падаюць на стол гарэлку з найлепшай закускай.

— Цудатворца з цябе, — звяртаецца госць да гаспадара. — Як ты так іх выхаваў?

— Вельмі проста. Калі першы раз вярнуўся п'яны дадому, а яны кінуліся на мяне з крыкам, узяў ножніцы і астрыг пудзеля. Калі другі раз накінуліся на мяне з крыкам, астрыг пудзеля другі раз. За трэцім разам узяў сякеру дый зарубаў шчанюка.

— Ну добра, а прычым тут жонка з цешчай?

— Яны ўжо стрыжаны два разы.

* * *

У людным поездзе мужчына хоча сесці каля старой бабулькі, абстаўленай клункамі.

— Будзьце асцярожны з яйцамі, — асцерагае жанчына.

— А што, яйцы ў горад везяце?

— Не, цвікі.

* * *

Стары маляр узяў на практыку вучня.

— У гэтым пакоі сам памалюеш вокны! — загадвае.

Праз некалькі хвілін юнак вяртаецца:

— Пан майстар! А рамы і падваконнікі таксама маляваць?

* * *

У самаабслуговым магазіне робіць пакупкі вычварная кліентка. Усё ёй не падабаецца. Кліча кіраўніка, робіць яму авантуру, канчаючы крыкам:

— Пацалуйце мяне ў с...!

— У нас самабслугоўванне, — ветліва адказвае кіраўнік.

## Знайшоў сябе

Выдалі нарэшце першы лядашчы зборнік маіх лірычных вершаў. Ляжыць ён у кнігарні дзень, два, дзесяць ляжыць — і ўсё без руху... Аніякага попыту! Я стаў дакараць прадаўцоў:

— Цудоўная кніга! А вы ніводнага экземпляра не прадалі...

— Не бяруць, — апраўдваюцца тыя. — Мы яе нават у падарункавы камплект разам з дэтэктывам паклалі. Усё роўна не бяруць!

— Няўжо нельга прадаць?.. — дапытваюся.

— Увогуле дык можна. Толькі вам самім трэба за прылавак стаць.

Аб'яву павесілі. Паведамілі, што, маўляў, у такі вось час і ў такі дзень сам аўтар будзе прадаваць кнігі.

Людзей у магазін прыйшло многа. Я ўсміхаюся ўсім. Аўтографы даю.

Ужо праз гадзіну мой зборнік раскупілі. Нават не ўсім і хапіла. Настрой у мяне выдатны. Увесь тыдзень успамінаў, як усміхаліся мне дзяўчаты, як і я ім усміхаўся...

— Удзячная праца кнігапрадаўца! — з павагай выказаўся я аб работніках прылаўка.

Недзе праз тыдзень паехаў я ў творчую камандзіроўку ў суседні горад. Зайшоў у кніжную краму, глянуў на паліцы — і аж дыханне перахапіла. Ляжаць нерэалізаваныя некалькі дзесяткаў маіх лядашчых зборнікаў...

Я прадаўцам назваўся. Бачу, няёмка ім...

— Спрабавалі прадаць, але не атрымліваецца, — апраўдваюцца.

— Прыйдзецца самому стаць за прылавак, — прапаную...

— О, вы добрую справу зробіце, — радуюцца. — У нас яшчэ ніколі паэты сваіх кніг не прадавалі.

Зноў усміхаюся пакупнікам. Аўтографы раздаю. Настрой — лепей не трэба... Яшчэ больш аб працы прадаўца думаю. Як здорава, разважаю, з людзьмі знацца, рабіць ім прыемнае!...

Потым быў я ў камандзіроўцы яшчэ ў пяці гарадах. За прылаўкам, вядома ж, стаяў. Калі прадаў самы апошні экземпляр, міжволі падумалася: „Паэт-лірык з мяне, мусібыць, не атрымаўся. Але за час распаўсюджвання зборніка вершаў нарэшце знайшоў сваё прызванне".

Цяпер я працую прадаўцом.

**Мікола ФЕДЗЮКЕВІЧ**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Мы працавалі ў адной установе. Я кіравала, значыцца, была дырэктарам, а ён толькі прыйшоў, малады, прыгожы. Неяк адразу прыліп да мяне, а я не мела сілы сказаць яму: не!

З мужам я не жыла ўжо чатыры гады. Засталася адна з сынком. Творчая праца паглынала мяне поўнасцю і я не думала пра тое, каб другі раз выходзіць замуж. Дзіцём займалася мая мама.

Мы пачалі, аднак, сустракацца не толькі на працы. Робячы гэта, я не думала, што ўчыняю крыўду яго жонцы, паколькі ён гаварыў мне пра сваё вялікае адзінае каханне, якое спаткала яго ў жыцці, — да мяне. З жонкай усё было зусім інакш, пераконваў ён мяне, ажаніўся з ёю, паколькі яна зацяжарыла. Хацеў быць чалавекам, дык не пакінуў дзяўчыну з жыватом на пасмешышча.

Які высакародны чалавек! — думала я. Як жа не пакахаць такога... Ну, і закахалася без памяці.

Праз паўгода я ўжо была ўпэўнена, што пакахала яго на ўсё жыццё. Я ўжо не думала пра крыўды яго сям'і, а сказала, каб яны ўзялі развод. Ён быў паслухмяны — усё рабіў так, як я хацела. Неяк дагаварыліся яны з жонкай, тым больш, што ў яе ўжо таксама нехта „завёўся", і праз наступных паўгода я выйшла замуж другі раз. На гэты раз — за чалавека, з якім меркавала жыць да смерці.

Можаш сабе ўявіць, Сэрцайка, якое моцнае было і яго каханне, калі кінуў сям'ю і ажаніўся са мною — разведзенай, старэйшай за яго на восем гадоў, з дзіцём ад першага мужа, занятай надта моцна прафесійнай працай.

Аднак жа мушу сказаць, што гэта праца і спалучала нас. Былі ў нас супольныя справы, дыскусіі, паездкі. Жыць стала прыемна і цікава.

Мой другі муж быў зусім іншы, чым першы. Той першы на дом не звяртаў ніякай увагі: быў п'яніца і гуляка. Гэты ж умеў спячы майму дзіцяці торцік, мыў нам бялізну, памагаў ва ўсім — у хаце і на дачы (там уласнымі рукамі пабудаваў прыгожанькі домік).

Усе дзівіліся, як гэта мне ўдалося знайсці ізноў такога вартаснага чалавека. Падумаць, і з чужым дзіцём узяў! Некаторыя сяброўкі нават зайздросцілі: добра табе!

І раптам... сяброўкі перасталі яго хваліць. Найчасцей на яго тэму... маўчалі, са здзіўленнем спаглядаючы на мяне. Я была ў недаўменні, бачачы, як яны пераглядваюцца між сабою ў той час, калі я расказвала пра цудоўныя адносіны майго мужа да мяне і да майго сына.

Калісь я не вытрымала і запытала ў іх, што гэта абазначае: ці яны мне не вераць?! І ўрэшце адна сяброўка не вытрымала і кажа: „Калі ён цябе так кахае, дык чаму за ручку з іншай па горадзе ходзіць?!"

Мне стала цёмна ў вачах. Як была я шчаслівая, так зямля пачала ўцякаць з-пад маіх ног. Я пачала сачыць за маім мужам. Ведала, куды ён ідзе, дзе можа з людзьмі сустрэцца. Усюды хадзіла, паяўлялася там неспадзявана і... высачыла.

Сапраўды, знайшоў сабе новую дзяўчынку. Маладую, свежанькую, а фігурка якая! Пачаліся ў маёй хаце скандалы, не было спакою. Прызнаўся да тае дзяўчыны.

І тады я вырашыла вярнуцца з дзіцём да мамы. Тут мне добра і спакойна. Толькі сэрца вярэдзіць думка, што ён надалей ходзіць па горадзе з той дзеўкай. Хачу падаць на развод, бо ён сказаў мне, што на гэта не мае грошай.

Цяпер сяджу і думаю: бадай, мяне не кахаў ніколі. Ажаніўся са мною, бо імпанавала яму, што жэніцца з дырэктарам, бабай на высокай пасадзе, ад якой у нейкай ступені залежала яго кар'ера. Вось і ўсё! Трэба разводзіцца.

**РУЖА**

Ружа! Мо сталася ўсё так, як часта здараецца ў жыцці: проста кахаў, а пасля перастаў кахаць цябе. Калі б быў ашуканцам, сказаў бы цяпер табе, што тая дзяўчына — гэта толькі сяброўка, з якою ніякае пачуццё яго не спалучае. Але ж, бачыш, прызнаўся.

Думаю, што шалець няма патрэбы. Мо і гэта каханне ў яго пройдзе. З разводам пакуль што пачакай, але калі нават вы і сыдзецеся, дык ужо таго цяпла між вамі, бадай, не будзе.

**СЭРЦАЙКА**